12 верасня 2014 | № 34 (403)

Новы час

novychas.info

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Працей змяніць пол, чым ментальнасць

стар. 4

**6 АЛЯКСАНДР СТАРЫКЕВІЧ: У КАНГРЭСА ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПАВІННА БЫЦЬ ПРОСТАЯ МЭТА**

Ідэя Усебеларускага кангрэсу за незалежнасць Беларусі не новая. Падобны форум быў у 2000 годзе

**11 АДЗІНЫ ДЗЕНЬ ГАЛАСАВАННЯ І ХАМОН**



Маскоўскі журналіст Сяргей Кастэнака — пра палітычную атмасферу ў Расіі напярэдадні выбараў

**14–15 ГЕНРЫХ ВЕЙСЕНГОФ — ЗАБЫТЫ МАСТАК БЕЛАРУСІ**



Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 года мастак канчаткова з'ехаў з Беларусі ў Польшчу

**13 АДТЭРМІНАВАНЫ АРМАГЕДОН**

Інцыдэнт з удзелам Эстана Кохвера адрадзіў у кагосьці ўжо прызабыты страх перад ядзернай вайной...

# Адмежаваліся?

**Тое, што ў 1995 годзе было дасягненнем, у 2014-м стала праблемай.**



Сяргей ПУЛЬША

Лукашэнка ў 1995 годзе паказальна выкапаў спецыяльна ўсталяваны для таго памежны слуп на мяжы з Расіяй. Зараз ягоным указам тэрыторыям, якія прымыкаюць да Расійскай Федэрацыі, вернуты статус прымежнай зоны.

Пра паўнавартасную мяжу размовы пакуль не ідзе. Тым не менш, гэты ўказ пачалі крытыкаваць тыя, ад каго крытыкі, падавалася б, чакаць не трэба. Напрыклад, намеснік кіраўніка кампаніі «Гавары праўду!» Андрэй Дзмітрыеў на сваёй старонцы ў Facebook напісаў: «А хоць бы і мяжа. Якая розніца? Я пакуль бачу толькі адну — яшчэ ў адным кірунку мірных грамадзян у цягніку будуць будзіць два разы за ноч». Кіраўніца кампаніі «Наш дом» Вольга Карач назвала гэтае рашэнне «дрэннай навіною для беларускай апазіцыі». Маўляў, тыя апазіцыйныя газеты і ўлёткі, якія друкаваліся ў Смаленску ці Бранску, складаней будзе правезці ў Беларусь.

Па-іншаму тлумачаць «памежную зону» ў Памежным камітэце. «Указ прыняты ў мэтах дадатковых прававых умоў для прымянення памежных сродкаў і сіл у інтарэсах памежнай бяспекі Беларусі і Расіі», — патлумачыў прэс-сакратар Дзяржаўнага памежнага камітэта Аляксандр Ціщчанка. І ўвогуле, паводле яго, мяжа з сумежнымі дзяржавамі была ўстаноўлена пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 11 чэрвеня 1993 года, і, такім чынам, «на маскоўскім напрамку» яна існавала заўсёды.

Як гаворыцца ў тлумачэнні прэс-службы Лукашэнкі, стварэнне прымежнай зоны «дасць магчымасць стварыць умовы для рэалізацыі ўскладзеных на органы памежнай службы задач і функцый у межах гэтай мясцовасці, а таксама арганізаваць належнае ўзаемадзеянне з памежнымі органамі Расійскай Федэрацыі, скіраванае на рашэнне задач па выяўленні і спыненні транзітнай незаконнай міграцыі, наркатрафіку і незаконнага перамяшчэння праз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў».

Сапраўды, наркатрафік з Усходу стаўся для Беларусі вялікай праблемай. У аналітычным аглядзе за 2013 год Упраўленне па наркакантролі МУС Беларусі канстатавала: «Асноўнай краінай — пастаўшчыком наркотыкаў і псіхатропаў у Рэспубліку Беларусь непасрэдна для ўнутранага збыту па-ранейшаму з'яўляецца Расійская Федэрацыя... Адным з фактараў, якія выклікалі такую тэндэнцыю, з'яўляецца ўваходжанне Рэспублікі Беларусь у Мытны саюз, што дазваляе спрошчанае перамяшчэнне тавараў праз мяжу Расіі і Беларусі».

Праблема незаконнай міграцыі — таксама не жарты. Яна ўскладняецца тым, што зараз у нас поўнаю хадою ідзе падрыхтоўка да спрашчэння візавага рэжыму паміж Беларуссю і Еўрасаюзам.

«Каб падпісаць дамову аб спрашчэнні, а ў перспектыве — і адмене візавага рэжыму, нам трэба вырашыць пытанне рэадмісіі грамадзян», — тлумачыць вайсковы эксперт Аляксандр Алесін. А якая можа быць рэадмісія, калі ў нас мяжы з Расіяй няма?

Так што зараз «нелегалаў» мы павінны адлоўліваць не на заходняй мяжы, а на далёкіх усходніх подступах да яе.

Шматлікія эксперты адзначаюць, што Аляксандра Лукашэнку не можа не турбаваць і досвед Украіны, дзе «дзіравая» мяжа з Расіяй зрабіла магчымай паўнавартасную вайну. Канешне, як сведчыць досвед Украіны, наяўнасць інжынерных збудаванняў на мяжы не з'яўляецца гарантыяй абароны ад магчымых яе парушэнняў, а тым больш ад узброенага ўварвання. Тым не менш, наяўнасць такой мяжы здымае хаця б частку гіпатэтычных «праблемаў вайсковага ўварвання». Нагадаем, што памежнікі ўкраінскага пункту пропуску «Ізварына» даволі працяглы час блакавалі магчымасць дастаўкі падмацаванняў луганскім сепаратыстам з Расіі. Так, зброя і найміты праходзілі і «лесам», у абыход памежнага пункта, але, каб не было «Ізварына», гэтая б «сцежка» была нашмат шырэйшай і зброі для сепаратыстаў было б у дзясяткі разоў больш.




**Альтэрнатывы мяжы з Расіяй у сучасных умовах не існуе**

Такім чынам, альтэрнатывы мяжы з Расіяй у сучасных умовах проста не існуе. Увядзенне хаця б памежнай зоны з Расіяй — крок апраўданы. Канешне, гэта створыць нейкія нязручнасці звычайным грамадзянам, кшталту атрымання дазволаў на знаходжанне ў памежнай зоне цягам больш за тры гадзіны (фармальна такая практыка існуе) і пашпартных праверак у цягніках. Але да гэтага яшчэ — як да Кітая пехам.

Як лічыць кіраўнік аналітычнага праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў, галоўная праблема памежнікаў зараз — кадры. «Асноўная праблема памежных структураў, як, дарэчы, і амаль ва ўсіх дзяржаўных структураў, — «кадравы голад». На мяжы фізічна не хапае людзей, а тыя новыя кадры, якія туды прыходзяць, недастаткова падрыхтаваныя», — адзначыў Паротнікаў.

Паводле аналітыкаў Belarus Security Blog, менавіта ўкамплектаванне новых штатаў будзе найбольш істотнай праблемай. Ужо ў цяперашні час органы памежнай службы адчуваюць праблемы з камплектаваннем падраздзяленняў памежнага і мытнага кантролю. Для аховы ж мяжы Беларусі і Расіі спатрэбіцца фармаванне не менш двух пагранічных атрадаў (напрыклад, у Оршы, Мсціславе або Крычаве), і значнае павелічэнне колькасці Полацкага і Гомельскага пагранатрадаў. Толькі на базе двух гэтых атрадаў на мяжы з Расіяй будзе неабходна сфармаваць не менш за 50 застаў або пагранічных пастоў і 10–15 аўтамабільных і чыгуначных пунктаў пропуску. Такім чынам, колькасць памежнікаў павінная павялічыцца не менш чым у паўтары разы.

Каб Аляксандр Рыгоравіч не выкапаў бы слуп у 1995-м — не мелі б мы такіх праблемаў зараз. Але ёсць час памыляцца, і час выпраўляць памылкі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### САЛІГОРСК: Парушэнне закону чыноўнікі не прызналі



**Салігорскія чыноўнікі не прызналі незаконнасць планаў па будаўніцтве скразной аўтадарогі праз дваравую тэрыторыю паміж вуліцамі Заслонава і Багамолава.**

Аднак, «улічваючы звароты грамадзян аб змене канфігурацыі праезду», Салігорскім УКБ былі ўнесены змены ў будаўнічы праект. Такі афіцыйны адказ па ўзніклай праблеме атрымалі актывісты мясцовай ініцыятывы «Абаронім лес».

Нагадаем, напачатку жніўня ў сталіцы шахцёраў адбыўся масавы сход жыхароў шматпавярховага дому №53 па вуліцы Заслонава з удзелам гарадскіх уладаў. Салігорцы вылучылі чыноўнікам шэраг патрабаванняў, асноўным з якіх была адмена будаўніцтва скразной дарогі праз іх двор.

Пра акалічнасці справы распавядае адзін з ініцыятараў сходу Уладзімір Шыла:

— Пасля сходу я сустракаўся з намеснікам старшыні райвыканкаму па ЖКГ і добраўпарадкаванні Анатолем Даўгалеўцом. Так, яны ідуць насустрач у пытанні адмены будаўніцтва скразнога праезду. Аднак іншых зменаў у праект, звязаных з гэтай адменай, яны рабіць не збіраюцца. У даволі нахабнай форме мне было заяўлена, што жыхарам гораду, маўляў, будуюць жытло, а яны, бачце вы, яшчэ маюць нахабства патрабаваць, каб дваравы асяродак каля гэтага жытла быў камфортны.

Па словах актывіста, на дадзены момант жыхары дому абмяркоўваюць свае далейшыя крокі па абароне права на спрыяльны навакольны асяродак. Сярод імаверных варыянтаў далейшага развіцця падзеяў разглядаецца пытанне судовага разбіральніцтва.

**spring96.org**

### ГРОДНА. Забаранілі ўсе пікеты



**У Гродзенскай вобласці мясцовыя актывісты аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» падалі 14 заявак на пікеты ў падтрымку ўвядзення Малога памежнага руху з Польшчай і Літвой.**

Аднак правядзенне 13 пікетаў было забаронена. Толькі ў Воранаўскім раёне пікет дазволілі, паставіўшы папярэдняй умовай падпісанне дамовы з міліцыяй і медыкамі, што фактычна таксама ёсць забаронай, бо апошнія без афіцыйнага дазволу пікету падпісваць дамовы адмаўляюцца.

Як паведаміў гродзенскі абласны каардынатар БХД Мікола Баўсюк, актывісты збіраюцца абскарджваць забароны.

**Прэсавая служба БХД**

### ГОМЕЛЬ. Сваю майку Рубцоў не пабачыць



**Выконваючы абавязкі начальніка УУС адміністрацыі Савецкага раёна Мінска палкоўнік міліцыі П. Сяміжэн паведаміў гамельчуку Юрыю Рубцову аб тым, што «прадмет адзення, які мае надпісы палітычнага характару і які быў канфіскаваны супрацоўнікамі міліцыі, быў вернуты яму разам з іншымі рэчамі адразу пасля яго вызвалення з ЦІП ГУУС Мінгарвыканкама».**

Цікава, што месяц таму, папярэдні выконваючы абавязкі начальніка УУС адміністрацыі Савецкага раёну Мінска М. Гамола на патрабаванне актывіста вярнуць яму «прадмет адзення, які мае надпісы палітычнага характару» паведаміў, што «пэўна ўстаноўлена, прадмет адзення, канфіскаваны супрацоўнікамі міліцыі 26.04.2014 г. передаваўся Вам у прысутнасці сведак пасля вызвалення з ЦІП ГУУС Мінгарвыканкама, аднак прыняць яго Вы катэгарычна адмовіліся».

Маючы на руках два ўзаемавыключальныя адказы, «чалавек-майка», як яго трапна ахрысцілі журналісты, зараз звярнуўся да пракурора Савецкага раёна Мінска. «Прымаючы да ўвагі «словаблудства» кіраўніцтва УУС адміністрацыі Савецкага раёна Мінска, па ўзгаданых фактах прашу правесці пракурорскую праверку, па выніках якой паведаміць, на якой прававой падставе супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі ў мяне майку, у выніку чаго нават у судзе я быў вымушаны прысутнічаць па пояс раздзетым». Акрамя таго, у скарзе да пракурора актывіст патрабуе абавязаць міліцыю вярнуць яму незаконна канфіскаваную майку.

Нагадаем, Юры Рубцоў быў затрыманы 26 красавіка бягучага года падчас «Чарнобыльскага шляху». 28 красавіка яго привезлі ў суд без майкі, распрануўшы да пояса, дзе асудзілі на 25 сутак адміністрацыйнага арышту.

**Гомельская Вясна**

# «Карусель пікетаў»

**Акцыю «Карусель пікетаў» распачынаюць актывісты Руху «За Свабоду» Арцём Лява і Алесь Марчанка. Яны прапануюць кожны дзень падаваць заяўкі на пікеты каля амбасады Расіі з патрабаваннем спыніць ваенныя дзеянні ва Украіне.**

Ідэя «Каруселі пікетаў» у тым, каб людзі кожны дзень падавалі заяўкі на адзіночныя пікеты ля пасольства, патлумачыў сайту Рух.by Алесь Марчанка. Заяўкі на першыя пікеты 19 і 20 верасня ён і сябра Рады Руху «За Свабоду» Арцём Лява ўжо падалі, у Мінгарвыканкам звернецца яшчэ адзін актывіст, які папросіць дазволу на правядзенне акцыі 21 верасня.

«Калі знойдзецца шмат жадаючых, і на кожны дзень прыначаць пікеты, то чыноўнікі Мінгарвыканкама будуць абавязаныя даваць адказы, прыдумваючы новыя тлумачэнні, бо ўсім аднолькавыя адмовы не атрымаецца даць», — кажа Марчанка.

Па словах актывіста, заяўкі на адпаведнасць заканадаўчым нормам былі правераныя юрыстамі-праваабаронцамі.

Хутчэй за ўсё, лічыць актывіст Руху «За Свабоду», «адказы будуць адмоўныя, але нейкім чынам трэба ж прымусіць чыноўнікаў выконваць Канстытуцыю і законы». Па ягоных падліках, на першыя заяўкі адказы прыйдуць 14–15 верасня.

Каб далучыцца да «Каруселі пікетаў» супраць вайны ва Украіне, ахвочым трэба мець бланк заяўкі, якія з'явіліся на сядзібе Партыі БНФ (вул. Чарнышэўскага, 3 у Мінску), акрамя таго, па іх можна звяртацца да арганізатараў акцыі (+375 29 7518143 Арцём Лява). Арганізатары просяць актывістаў пазначаць дзень, на які яны плануюць падаваць заяўку, а таксама кажуць, што гатовыя выслухаць усе прапановы ад магчымых удзельнікаў.

**рух.by**

# Дзень без беларускага пісьменства

Сяргей ЧЫГРЫН

**Збіраўся ехаць у Заслаўе на святкаванне Дня беларускага пісьменства. Але перадумаў.**

Адзін дзень у год у Беларусі — Дзень беларускага пісьменства, а 364 дні — без беларускага пісьменства.

За апошнія 20 гадоў у маёй роднай Беларусі практычна знішчана беларускае пісьменства: садкі, школы, ВНУ, выданні, культура, прэса. Сёння ў Беларусі на роднай мове выдаюцца толькі газеты «Культура», «Наша слова», «Новы час», «Краязнаўчая газета», «Наша ніва» і некалькі раёнак. Вось і ўсё.

Як жа так? А «Звязда», «ЛіМ» — таксама ж на беларускай мове... Ды не, яны ўжо выходзяць на сечцы — дзвюхмоўныя. Раённыя газеты, якія перажылі і войны, і рэпрэсіі, і розныя палітычныя катаклізмы, але ніколі не цураліся роднай мовы.

А цяпер? Цяпер іх страшна ў рукі браць, бо там ужо немагчыма зразумець: дзе беларуская мова, а дзе іншая. У адным артыкуле рэдактары раёнак умудраюцца рубрыку зрабіць на беларускай мове, тэкст даць на рускай мове, здымкі падпісаць зноў на беларускай ці беларуска-рускай мовах. Вось і думайце чытачы — якая ў нас мова! А калі пачынаеш абурацца, яны кажуць, што ў нас дзвюхмоўе... Але ад гэтага «дзвюхмоўя» раёнкі не сталі цікавейшымі, а наадварот згубілі нешта сваё, роднае, блізкае і дарагое, найперш — мову. Я пра іх змест нават і не кажу...

Пра беларускія садкі, класы і школы наогул страшна пісаць. Бо ў Беларусі іх няма, яны амаль поўнасцю адсутнічаюць. Іх болей на Беласточчыне, чым на маёй Бацькаўшчыне. Нядаўна настаўніцы малодшых класаў, дзе яшчэ захаваліся беларускія класы, пры сустрэчы сказалі, што ў іх няма беларускіх падручнікаў, няма па чым дзеткам займацца, бо падручнікі не надрукавалі. Таму настаўнікі робяць ксеракопіі і раздаюць дзеткам. Нават і не прыгадаю, калі такое ў гісторыі Беларусі было...

Некалі ў райцэнтрах працавалі па некалькі кнігарняў. Кнігарні мелі і вялікія вёскі. А цяпер у многіх раённых цэнтрах Беларусі поўнасцю адсутнічаюць кніжныя крамы. Вы ўяўляеце: горад ёсць, а кніжнай крамы ў ім няма!.. Паўстае пытанне: дзе дзеткам, школьнікам, бацькам купіць беларускамоўную кніжку, пагартаць, пачытаць яе. Дзе купіць беларускую паштоўку, значок, магніцік, вымпел?.. Ды нідзе.

А калі заглянеш у кіёскі «Белсаюздруку», то там прадаецца толькі рускамоўнае. Таму розніцы няма: ці ты ў Оршы, Кобрыне, Пінску, Ваўкавыску жывеш, ці ты жывеш у Чыце, Сургуце, Варкуце. Адны і тыя ж расійскія выданні і сувеніры.

А ў царкоўных праваслаўных храмах на Беларусі проста жах: там не толькі рускія выданні, але і шмат антыбеларускіх брашур, кніг, буклетаў. Завітайце ў Жыровічы, паглядзіце... І такіх падобных прыкладаў кожны з нас на Беларусі можа прывесці безліч.

Калі мы, беларусы, зразумеем, што ўжо 20 гадоў у Беларусі запушчана духоўная нейтронная бомба, каб ушчэнт знішчыць беларусаў, іх гісторыю, мову, культуру, адукацыю. І на вайне гэтай у Беларусі нас перамагаюць, перамагаюць нахабна, смела і адкрыта. Бо мы маўчым, седзячы кожны ў сваім кутку, а потым адзін раз на год выпаўзаем на Дзень беларускага пісьменства.

Выпаўзаем, каб, маўляў, паглядзець, колькі ў нас выдаецца кніг, падручнікаў, газет і часопісаў. Але ці пра такі Дзень беларускага пісьменства марыў вялікі Францыск Скарына? Ды не пра такі, вядома ж. Ён марыў, каб беларускае пісьменства на Бацькаўшчыне жыло штодня, жыло заўсёды і ўсюды, жыло ў нашых душах, марах, справах... Але наша роднае слова паўсюль знішчаюць, абражаюць, не пускаюць, выкідваюць... Таму на Дзень без беларускага пісьменства я не паехаў.

# Тыдні Германіі – 2014

**З 15 верасня да 10 кастрычніка пройдуць Тыдні Германіі, якія ўжо сталі добрай традыцыяй і праводзяцца на працягу больш як дзесяці гадоў. Праграма мерапрыемства адрасаваная ўсім, хто цікавіцца сучаснай нямецкай культурай, мовай і грамадствам.**

Тыдні Германіі–2014 адкрываюцца выставай «Казачныя сусветы», якая ў гэтым годзе стане адным з цэнтральных тэматычных напрамкаў і будзе праходзіць чырвонай ніткай праз усю праграму. Сваё адлюстраванне знойдуць таксама і многія іншыя тэмы.

Пазнаёміцца з Германіяй беларускай грамадскасці дапамогуць фільмы і музыка, тэатр і літаратура, фотавыстава і іншыя мерапрыемствы. Актыўны ўдзел у праграме бяруць школьнікі, студэнты, а таксама вучоныя і спецыялісты.

За мінулыя гады Тыдні Германіі сталі неад'емнай часткай працы ў галіне нямецкай культуры ў Беларусі. Яны праводзяцца Пасольствам Федэратыўнай




Рэспублікі Германія разам з іншымі германскімі ўстановамі і нямецкімі пасярэднікамі ў сферы культуры ў Беларусі ў супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі.

Падрабязную і актуальную інфармацыю аб асобных мерапрыемствах і арганізатарах вы знойдзеце на сайце www.minsk.diplo.de.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вышэй за неба

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Краіна пасля летніх адпачынкаў уцягнулася ў працу, і ўрад Беларусі шукае: што б яшчэ павысіць? На жаль, расце не дабрабыт насельніцтва. Растуць кошты. І растуць значна.**



На гэтым тыдні ўрад у чарговы раз скарэктаваў свае абавязальніцтвы па інфляцыі. Напачатку года планавалася, што яна складзе прыкладна 11%, у той час, як нават 12% інфляцыі — гэта мара ўрада: паказчык, які ставіцца штогод на працягу гадоў ужо трох, і штогод з’яўляецца недасягальным для нашай эканомікі. Гэтыя першасныя 11% былі скарэктаваныя ўвесну да 14,5%, што было больш падобнае на праўду, але, як высветлілася — таксама аптымістычна. За студзень-жнівень мы набралі 11,1% інфляцыі, а за той самы жнівень гадавая інфляцыя ўзрасла ўжо да 12%.

Зараз афіцыйны прагноз па інфляцыі зноў перагледжаны — рост спажывецкіх цэн у 2014 годзе чакаецца на ўзроўні 17,3%, гаворыцца ў жнівеньскім нумары «Эканамічнага бюлетэня», які выдаецца Навукова-даследчым эканамічным інстытутам Міністэрства эканомікі Беларусі.

Рашэнне павысіць прагнозны параметр было прынятае ўрадам у сувязі з невыкананнем першапачатковага прагнозу. Для дасягнення новага паказчыка, па разліках НДЭІ Мінэканомікі, сярэднямесячны рост спажывецкіх коштаў у другой палове года не павінен перавышаць 1,04%.

На думку спецыялістаў НДЭІ, асноўнае ўздзеянне на паскарэнне інфляцыі аказаў рост коштаў на харчовыя тавары і паслугі, «якія ў той ці іншай ступені рэгулююцца дзяржавай». Прыняцце ў першай палове года рашэння «аб адмене ўстанаўлення гранічных цэн і пераходзе да свабоднага цэнаўтварэння на мяса істотна павялічыла цэны на рынку харчавання і прывяло да паскарэння інфляцыі ў другім квартале». Паводле ацэнак НДЭІ, асноўныя рызыкі ўзмацнення інфляцыйных працэсаў у другой палове года «могуць быць звязаныя з дэвальвацыйнымі чаканнямі, рэальнай верагоднасцю зніжэння курсу нацыянальнай валюты вышэй, чым запланавана, а таксама ростам цэнаў па рэгуляваных групах тавараў і паслуг (прамое рэгуляванне, усталяванне новых акцызаў)».

Але насамрэч справа ў тым, што трэба цвяроза разлічваць свае сілы і не ставіць перад сабою невыканальных мэтаў. Яшчэ напачатку года Сусветны банк прагназаваў, што інфляцыя ў Беларусі складзе 16,4%, а Міжнародны валютны фонд казаў

**На думку спецыялістаў НДЭІ, асноўнае ўздзеянне на паскарэнне інфляцыі аказаў рост коштаў на харчовыя тавары і паслугі, «якія ў той ці іншай ступені рэгулююцца дзяржавай»**

пра 16%. Ды што там разумныя людзі недзе за мяжой — родны Нацбанк ужо ў красавіку казаў, што нашая інфляцыя складзе 16–17% на год.

Урад выступае тут у ролі жырафа, да якога доўга ўсё даходзіць. Паўгода яму спатрэбілася, каб прызнаць слушнасць Нацбанку, і дзевяць месяцаў — каб пачуць тое, пра што казалі аўтарытэтныя міжнародныя эксперты.

Можа быць, нам трэба гэтага «жырафа» неяк ператварыць у якога-небудзь «вожыка»? Каб ён быў «бліжэй да зямлі», да народа, і чуў усё адразу?

Між тым, рост цэнаў працягваецца. Два тыдні прайшло — і ў нас зноўку рост цэнаў на паліва. Канцэрн Белнафтахім з 9 верасня ў сярэднім на 4% павысіў рознічныя цэны на нафтапрадукты. Кошт 1 літра бензіну АІ-95-К5 складае зараз Br10 850 (раней — Br10 400), АІ-92-К5 — Br10 100 (Br9 700), «дызеля» ДТ-К5 — Br11 150 (Br10 700), ДТ-К4 — Br10 950 (Br10 500).

Гэта — апошняя навіна пра павышэнне коштаў на бензін. Больш такіх навінаў не будзе. Не таму, што ён больш не будзе даражэць — даражэць ён будзе, але ад гэтага часу — штодня. Беларускія ўлады змянілі парадак цэнаўтварэння на нафтапрадукты, прывязаўшы кошт паліва да долара ЗША. У выніку гэтага рашэння больш за ўсіх выйгралі тыя, у каго аўто жарэ 92-гі бензін. Літр АІ-92-К5-Еўра вызначаны індыкатарам, і будзе каштаваць у любым выпадку долар за літр. Змяняецца курс долара — змяняецца кошт. Кошты астатніх відаў бензіну будуць карэктавацца з улікам «існуючых цэнавых суадносін паміж АІ-92-К5-Еўра і іншымі маркамі паліва».

Між тым, канцэрн не ўдакладняе, як часта будзе ажыццяўляцца карэкціроўка цэн на бензін. У адпаведнасці са стратэгіяй «плаўнай дэвальвацыі», курс долара на таргах БВФБ падымаецца 3–4 разы на тыдзень на 10 рублёў за раз.

Варта адзначыць, што рашэнне канцэрна канчаткова пахавае анансаваную пэўную колькасць гадоў таму праграму «дэдаларызацыі» беларускай эканомікі, рэальнай валютай якой застаецца долар ЗША, у той час як беларускі рубель выконвае толькі разліковыя функцыі.

Свой унёсак ва ўзровень інфляцыі робяць і камунальнікі. Улады Мінска на 9,8% падвысілі тарыфы на паслугі ЖКГ. Павышаныя аплаты за тэхнічнае абслугоўванне жылых дамоў, водазабеспячэнне, каналізацыю і карыстанне ліфтам.

Увогуле, нашае ЖКГ — такая дзіўная рэч, што здольная вытрасці грошы нават з паветра. Напрыклад, павышаная зараз аплата за ліфт са жніўня здымаецца нават з жыхароў другога паверха, якія гэтай прыладай, па вялікім рахунку, не карыстаюцца: пешкі дайсці хутчэй, чым чакаць, пакуль ён прыедзе.

Падаецца, плата за ліфт — сума невялічкая: для кватэры, у якой у сярэднім пражываюць тры чалавекі — прыкладна Br6 700 на месяц. За год набягае прыблізна 8 долараў. Але памножце гэтую лічбу на 4 кватэры на другім паверсе, і на колькасць дамоў з ліфтам у Мінску з яго амаль двухмільённым насельніцтвам... Думаю, 300–500 тысяча долараў у год «з паветра» ЖКГ мае.

Адно толькі не вядома — куды дзяваюцца гэтыя «паветраныя» грошы. З гэтай праблемай, — высветліць, куды знікаюць грошы ЖКГ, — улада ўжо столькі б’ецца, што самы ўпарты ўжо б лоб разбіў.

А тое, што павінна рабіць ЖКГ, робяць самі жыхары горада. У краіне пройдзе экалагічная акцыя «Зробім!», у межах якой праходзяць маштабныя прыборкі смецця. Смецце будуць прыбіраць кожныя выхадныя з 13 верасня па 12 кастрычніка. У акцыі няма арганізатара: любы ахвотны можа стварыць уласную групу і навесці парадак там, дзе трэба. Запланаваныя кропкі ўборкі можна паглядзець на сайце greenmap.by. Там у рэжыме рэальнага часу наносяцца месцы, дзе запланавана або ідзе ўборка. Першая ўборка ў Мінску пройдзе 14 верасня на Мінскім моры.

Акцыя «Зробім!» упершыню стартавала ў 2008 годзе ў Эстоніі. За адзін дзень 50 тысяч добраахвотнікаў сабралі 10 тысяч тон смецця па ўсёй краіне! У 2012 годзе акцыя ператварылася ў міжнародную «Сусветную ўборку», да якой падключыліся больш за 80 краін, у тым ліку і Беларусь.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Уладзімір Макей

**Міністр замежных справаў Беларусі знайшоў новага «перспектыўнага партнёра» ў Афрыцы.**

Днямі адбыўся ягоны першы за ўсю гісторыю двухбаковых адносін візіт у Нігерыю. Кіраўнік МЗС перадаў запрашэнне прэзідэнту Нігерыі Гудлаку Джонатану наведаць Беларусь, паведамляе прэс-служба знешнепалітычнага ведамства.

Макей на сустрэчы з нігерыйскім прэзідэнтам абмеркаваў пытанні актывізацыі двухбаковых сувязяў у палітычнай, гандлёва-эканамічнай, ваенна-тэхнічнай і іншых галінах. Беларускі міністр распавёў нігерыйскаму калегу аб планах па стварэнні зборачных вытворчасцяў беларускай трактарнай, сельскагаспадарчай і аўтамабільнай тэхнікі ў Нігерыі.

Было нават падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Беларускай гандлёва-прамысловай палатай і Нігерыйскай асацыяцыяй гандлёва-прамысловых, горназдабыўных і сельскагаспадарчых палат. Пагадненне прадугледжвае актывізацыю работы па падрыхтоўцы і правядзенні ўзаемных візітаў дзелавых колаў, пошуку гандлёва-эканамічных партнёраў, абмену камерцыйнымі прапановамі.

## Віктар Статкевіч

**Бацька палітвязня Міколы Статкевіча атрымаў ананімны ліст з пагрозамі.**



Варта зазначыць, што капэрту з гэтым лістом ён знайшоў у паштовай скрыні 8 верасня, у Дзень беларускай вайсковай славы.

«Ён у паштовай скрыні знайшоў ліст з пагрозамі бяспекі жыцця — яму, Мікалаю і мне. У прыватнасці, напісалі, што калі Мікалай выйдзе з турмы, яго заб’юць», — распавяла жонка Міколы Статкевіча Марына Адамовіч. Яна паведаміла, што пракансультуецца з адвакатам і паедзе да свёкра ў Баранавічы, дзе ён жыве адзін, каб напісаць заяву ў міліцыю. «Я не сумняваюся ў адмове, якую мы атрымаем з міліцыі, але лічу, што такія жудасныя рэчы проста так пакідаць нельга», — заявіла жонка палітвязня.

У маі 2011 года суд Ленінскага раёна Мінска прыгаварыў былога кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча да шасці гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў арганізацыі масавых беспарадкаў у дзень выбараў 19 снежня 2010 года. Палітык адбывае пакаранне ў шклоўскай калоніі №17, аднак у студзені 2012 года яму зрабілі больш жорсткімі ўмовы адбыцця пакарання і перавялі ў турму №4 Магілёва.



## Сяргей Міхалок

**З 1 верасня гурт «Ляпіс Трубяцкі» спыніў сваё існаванне.**

Замест яго з’явіліся два праекты — праект Сяргея Міхалка «Brutto» і «Trubetskoy», у склад якога ўвайшлі астатнія ўдзельнікі «Ляпісаў» на чале з Паўлам Булатнікавым. Кожны з праектаў ужо прэзентаваў сябе: «Brutto» прадставіла праграмны ролік «Brutto», а «Trubetskoy» — кліп «Ластаўка».

Міхалок распавёў, чаму «Ляпіс Трубяцкі» спыніў існаванне. «Праект пад назвай «Brutto» я задумаў пасля трылогіі «Agitpop». Буферам паміж «Brutto» і «Ляпісамі» павінен быў стаць мой сольны альбом «Вясёлыя карцінкі». Ні па канцэпцыі, ні па музычна-паэтычным увасабленні гэты альбом не мае нічога агульнага з рэвалюцыйна-эстрадным, святочным і агітбрыгадным «Ляпісам», — напісаў Міхалок у «Завяшчанні Ляпіса».

Але тады роспуску «Ляпісаў» перашкодзілі «палітычныя падзеі» ў Беларусі. «Нас пачалі прэсаваць, забараняць канцэрты, і роспуск гурта ўспрынялі б як баязлівасць і маладушнасць», — зазначае Міхалок.

«Ідэя «Brutto» разарвала «Ляпіс» знутры. Паніка, злосць, замяшанне, крыўды і ўзаемная нянавісць ахапілі аснову сіндыката Lyapis Crew і фанатаў групы. Я вырашыў сысці з «Трубяцкога» і стаў шукаць аднадумцаў для стварэння «Brutto». Падчас падрыхтоўкі «Brutto» мы запісалі з «Ляпісамі» альбом «Матрошка», паставіўшы тым самым тоўсты клічнік у фінале цярністага, супярэчлівага шляху гурта «Ляпіс Трубяцкі», — паведаміў Міхалок.

а Азбука паліталогіі

# Працей змяніць пол, чым ментальнасць



Сяргей НІКАЛЮК

**Мы жывем у рэальнасці, якая з заходняй рэальнасцю суадносіцца пры дапамозе прэфіксу «квазі» (як бы). У нас квазірынак, квазіграмадзянская супольнасць і квазіпалітыка.**

29 жніўня Уладзімір Пуцін, падчас размовы з удзельнікамі 10-га Усерасійскага маладзёжнага форуму «Селігер–2014», раскрытыкаваў «англасаксонскі» палітычны прагматызм у міжнародных адносінах: *«Россия всегда поддерживает действующую власть. Мы не как некоторые наши партнеры. Может быть, в этом смысле они даже ведут себя более прагматично, они всегда яйца раскладывают в разные корзины. И более того (американцы так делают), даже если лояльна им где-то власть, они всегда работают с оппозицией. Всегда! <...> Но у нас, особенно на постсоветском пространстве, мы не можем так поступать. У нас другая ситуация, абсолютно просто. И мы, конечно, всегда опираемся на действующую власть, и всегда ее поддерживаем».*

Для тых, хто ў Беларусі любіць разважаць на тэму прарасійскага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах, больш даходліва, мабыць, і не скажаш. І справа тут не ў асобе расійскага прэзідэнта. *«У нас, особенно на постсоветском пространстве»,* не было і быць не можа інакш. І нягледзячы на гэта, ні адна прэзідэнцкая кампанія не абыходзіцца без публічных абмеркаванняў шанцаў «прарасійскага кандыдата».

Не стане выключэннем і будучая кампанія. Супрацьстаянне па лініі Расія–Захад толькі падлівае алею ў агонь. «Беларусь знаходзіцца ў першай чарзе на «ўз'яднанне», на аншлюс», — перакананы экс-дарадца расійскага прэзідэнта Андрэй Іларыёнаў. Найбольш спрыяльнымі ўмовамі для ажыццяўлення такога кшталту дзеянняў, натуральна, будуць прэзідэнцкія выбары. А калі так, дык без свайго кандыдата Маскве не абысціся.

«Руку Масквы» як вырашальны фактар першых прэзідэнцкіх выбараў здолеў угледзець яшчэ Зянон Пазьняк. Галоўная ўмова папулярнасці міфа — прастата, а больш простага тлумачэння прычыны паразы нацыянальна-дэмакратычнага кандыдата ў 1994 годзе ніхто прапанаваць не змог і па гэты дзень.

Сярод родных бяроз і асін утапічны тып свядомасці выдатна ўжываецца з імкненнем да спрашчэння сацыяльнай рэальнасці. Былі беднымі — станем заможнымі, былі ў рабстве камуністычнага рэжыму — станем свабоднымі. А калі падзеі адмаўляюцца развівацца па напісаным намі сцэнары, дык вінаватыя ў гэтым знешнія ворагі.

### Калі не ён, дык хто?

Базавымі адзінкамі арганізацыі Захаду з'яўляюцца рынак, грамадзянская супольнасць і палітыка. Для іх апісання і існуюць гуманітарныя навукі: эканоміка, сацыялогія, паліталогія. Яны даюць выдатныя вынікі ў вывучэнні паўночнаатлантычнага ядра капіталістычнай сістэмы. Але мы жывем у рэальнасці, якая з заходняй рэальнасцю суадносіцца пры дапамозе прэфіксу «квазі» (як бы). У нас квазірынак, квазіграмадзянская супольнасць і квазіпалітыка.

Як тут ні прыгадаць несмяротнае выказванне Барыса Грызлова: «Парламент — не месца для дыскусіі». Спікер расійскай Думы не памыліўся. У праваслаўнай культуры адсутнічае алгарытм узгаднення. Усё гэта перашкаджае канструктыўнаму ўзаемадзеянню прыватных інтарэсаў у публічнай сферы. Але палітыка — гэта дзейнасць па ўзгадненні інтарэсаў розных сацыяльных груп. А калі інтарэсы не сфармаваныя, дык што могуць узгадняць квазідэпутаты ў квазіпарламентах?

Для нашай ментальнасці чужы дыялог, яна маналагічная: маналог бацькоў, маналог начальніка, маналог падначаленага і, зразумела, маналог адзінага палітыка (АП). Уключыце тэлевізар. Вось ён стаіць у атачэнні світы. Ён кажа. Світа слухае.

Адсутнасць дыялогу спараджае апасенні хаосу і энтрапіі. А што адбываецца, калі людзі (перш за ўсё эліты) імкнуцца пазбегнуць энтрапіі? З'яўляецца запыт на аўтарытарную асобу, і гэта замацоўваецца, у тым ліку, і ў канстытуцыі. Адсюль адвечнае пытанне: «Калі не ён, дык хто?» Адказ для большасці беларусаў відавочны: альтэрнатыва АП — хаос. Чаму? Таму што мы ведаем, што дамаўляцца па-ранейшаму не ўмеем.

Цяпер нам зразумелая катэгарычнасць Пуціна наконт Расіі, якая заўсёды падтрымлівае дзеючую ўладу. Для адначасовага ўзаемадзеяння і з уладай, і з апазіцыяй патрэбны пераход са сферы квазіпалітыкі ў сферу рэальнай палітыкі, што ў сваю чаргу патрабуе ад квазіпалітыкаў адмовіцца ад асабістага прэфіксу «квазі» — гэта значыць, змяніць ментальнасць. Але працей памяняць пол, чым змяніць ментальнасць.

Безальтэрнатыўная падтрымка дзеючых уладаў з боку Масквы прыводзіць да таго, што апазіцыя на постсавецкай прасторы (і не толькі на постсавецкай) прыходзіць да ўлады з антырасійскімі лозунгамі і адпаведнай праграмай. Усе ранейшыя адносіны пры гэтым падпадаюць пад перагрузку.

### Пішыце лісты

Не бывае правіл без выключэнняў. 29 жніўня 2011 года на нарадзе педагагічнага актыву




АП нечакана загаварыў пра неабходнасць наладзіць дыялог са сваімі палітычнымі апанентамі: *«Как Глава государства я предлагал и предлагаю всем здравомыслящим и любящим свою страну людям, к какому бы политическому лагерю они ни принадлежали, садиться за стол. Круглый... Квадратный стол... Посмотреть друг другу в глаза и реально оценить, кто чего стоит и что может сделать для эффективного улучшения ситуации в стране, а не топать и кричать на площадях».*

У асяродку апазіцыянераў тут жа знайшліся тыя, хто хацеў паглядзець у вочы АП і паверыў шчырасць яго заявы. 6 верасня «група таварышаў», якія ў сілу незразумелых прычын лічаць сябе сацыял-дэмакратамі, праз «Советскую Белоруссию» заклікала ўсе «канструктыўна настроена палітычныя сілы краіны адсунуць палітычны меркантылізм і групавыя амбіцыі ўбок», «салідарызавацца з дзяржавай» і перааддолець крызіс.

Відавочна, пагарачылася «група таварышаў». Вось што значыць не глядзець вячэрнія навіны на дзяржаўных тэлеканалах. Яшчэ 3 верасня ў эфіры АНТ старшыня праўлення ЗАТ «Другі нацыянальны канал» Рыгор Кісель даходліва патлумачыў, што меў на ўвазе АП, калі агучваў сваю ідэю: *«Собирайтесь левые, правые, непримиримые, сторонники, вырабатывайте предложения даже без участия власти и вносите их. Если предложение стоящее, то ни одна нормальная власть, которая ощущает проблемы в экономике или финансах, не может его игнорировать, поскольку для власти оно выгодно».*

Улада ў нас нармальная. Хто б сумняваўся! Яна гатовая прымаць у пісьмовай форме (выслухоўваць з-за занятасці ў яе часу няма) прапановы нават ад сваіх непрымірымых супернікаў. Галоўнае, каб прапановы былі вартыя і арыентаваныя на ўзмацненне... улады. Як тут ні прыгадаць героя рамана «Дванаццаць крэслаў» Астапа Бэндэра: *«Тише, дурак, говорят тебе русским языком — завтра, значит, завтра. Ну, пока! Пишите письма!»*

Не бывае правіл без выключэнняў, але ў кожнага выключэння ёсць свая прычына. Знайшлася яна і ў вераснёўскай ініцыятыве АП. 20 верасня ў незалежных СМІ быў растыражаваны ліст міністра замежных спраў Балгарыі Мікалая Младзенава вярхоўнаму прадстаўніку Еўрасаюза Кэтрын Эштан. Прыводжу адпаведны фрагмент: «У пачатку наступнага тыдня Лукашэнка павінен выступаць на нацыянальнай канферэнцыі настаўнікаў, на якой ён заклікаў да нацыянальнага «круглага стала» паміж уладамі, грамадзянскай супольнасцю і апазіцыяй. «Круглы стол» павінен забяспечыць сапраўдны дыялог, накіраваны на ўзгадненне палітычнай будучыні і дэмакратызацыі Беларусі».

Фармальную частку гэтай дамоўленасці АП выканаў. Абяцаў заклікаць — і заклікаў, але абмяркоўваць з апазіцыяй палітычную будучыню і дэмакратызацыю Беларусі ён, зразумела, не збіраўся. Удзельнікам дыялогу, які мае іншую мэту, акрамя ўмацавання асабістай улады, ён можа стаць толькі пад ціскам надзвычайных абставінаў.

У жніўні 2011 года, нягледзячы на эканамічны крызіс, АП не ацэньваў сітуацыю ў краіне як надзвычайную, што пацвердзіла рашэнне кіраўнік а Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Макея распусціць Грамадска-кансультатыўны савет. А да снежня ў Нацыянальны банк паступілі сродкі ад продажу 50% акцый ААТ «Белтрансгаз» у памеры 2,5 мільярда долараў. Жыццё наладзілася. Патрэба ў дыялогу з апазіцыяй адпала.

### Пакуль атрымліваецца

Дыялог — гэта форма існавання грамадства, якое завяршыла мадэрнізацыю. У рамках жа традыцыйнай культуры, носьбітам якой з'яўляецца АП і беларуская «большасць», згода на дыялог выступае ў якасці часовай саступкі знешняму ціску, і на дыялог калі і згаджаюцца, дык выключна для таго, каб перачакаць, назапасіць сілы і зноў ударыць па ворагу. Таму не варта здзіўляцца, што слова «дыялог» у выступах АП мы сустракаем рэгулярна. Гаворка ідзе пра дыялог з ворагамі, але не ўнутранымі, а знешнімі, без эканамічнага супрацоўніцтва з якім беларуская мадэль функцыянаваць не можа.

Нашы знешнія ворагі — на Захадзе. АП, паводле ўласнага прызнання, не з'яўляецца летуценнікам. Ён разумее, што *«никто никогда не позволит государству в центре Европы ходить в «белых перчатках» и радоваться жизни. Конечно, будут атаковать и слева, и справа — уж слишком лакомый кусок и в материальном, и в геостратегическом отношении наша страна. Наша Беларусь».*

Прынадным кавалкам традыцыяналістам можа падацца і Крым. Выдаткі на яго ўтрыманне абыдуцца Расіі ў 2014 годзе ў 7–8 мільярдаў долараў, а кожны наступны год пацягне яшчэ на 5–6 мільярдаў. І гэта — без уліку інвестыцый. Калі б у Крамлі рашэнні прымалі рацыянальныя (у еўрапейскім сэнсе) людзі, якія мараць зрабіць Крым сваім, то за 10–15 мільярдаў долараў яны б набылі ўсю нерухомасць і палову зямлі паўвострава.

Паводзіны Пуціна можна ацаніць як ірацыянальныя. Але я б ён не спяшаўся з такой ацэнкай. Да пачатку Новага часу сіла любога кіраўніка знаходзілася ў прамой залежнасці ад колькасці кантраляванай тэрыторыі. Усё лагічна: больш тэрыторыі — больш насельніцтва — больш салдат — больш шанцаў адваяваць у суседзяў дадатковую тэрыторыю і г.д.

Гэта логіка носьбітаў традыцыйнай — а значыць, экстэнсіўнай — культуры. У рамках гэтай логікі заснавальнікі Саюзнай дзяржавы і спрабуюць канкураваць з носьбітамі культуры інтэнсіўнай. Пакуль атрымліваецца. Дзякаваць за гэта варта «трубу» і высокія цэны на энерганосьбіты.

# З недаверам да рубля

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Міністэрства фінансаў не здолела размясціць рублёвыя 18-месячныя доўгатэрміновыя дзяржаўныя аблігацыі. Абвешчаны аўкцыён па размяшчэнні 274-га выпуску ДДА з купонным даходам не адбыўся з-за адсутнасці заявак.**



Тым жа часам канцэрн «Белнафтахім» прывязаў кошт паліва для аўтамабіляў да курсу долара. «Прывязка» кошту паліва да долара абгрунтаваная — сваёй нафты ў нас кату па пяту, набываем мы яе за валюту. Але рашэнне канцэрна паказальнае: да сваёй валюты даверу няма.

Чаму ж людзі не вераць у беларускі рубель?

Калі вяртацца да аблігацый, то стаўка купоннага даходу па іх была вызначаная як стаўка рэфінансавання Нацбанка РБ (20%)+1%. Будзем шчырымі адразу — гэта не даход, а суцэльныя страты. На гэты год урад плануе інфляцыю ў памеры 17,3%. Між тым, як казалася раней, аблігацыі размяшчаюцца тэрмінам на паўтара гады. Такім чынам, калі браць тэндэнцыю, то за паўтара гады гэтая інфляцыя складзе каля 25%. Атрымліваецца, што даход — меншы альбо роўны інфляцыі.

Але, укладаючы некуды грошы, мы маем намер атрымаць прыбытак, ці не так? У дадзеным жа выпадку, у лепшым варыянце мы застанемся «пры сваіх», страціўшы 18 месяцаў. А бізнэс-колы ведаюць знакамітае выслоўе: час — гэта таксама грошы.

Зараз вернемся да «Белнафтахіму». Яшчэ больш цікавай сітуацыя выглядае, калі ўзяць за аснову разліку не інфляцыю, якую лічаць па «сацыяльных» паказчыках, а курс долара. На 1 студзеня 2014 года ён складаў 9 520 рублёў. На 10 верасня гэтага года долар куплялі за 10 480 рублёў. То бок, з пачатку года долар падаражэў амаль на тысячу рублёў, альбо на 10,8%. І гэта яшчэ не фініш — да канца года застаецца тры месяцы, то бок прыкладна на рост долара у нас ёсць 3–4% рэзерву.

**Каб адбіць свае грошы ў «цвёрдай валюце», даход па аблігацыях павінен быць не 21%, а 30% (17% — інфляцыя і 13% — рост курса долара). Між іншым, прыкладна такую стаўку па рублёвых дэпазітах (27–30%) зараз прапануюць беларускія банкі**

Такім чынам, каб проста адбіць свае грошы ў «цвёрдай валюце», даход па аблігацыях павінен быць не 21%, а 30% (17% — інфляцыя і 13% — рост курса долара). Між іншым, прыкладна такую стаўку па рублёвых дэпазітах (27–30%) зараз прапануюць беларускія банкі.

Але, як кажуць, і тут «ёсць нюанс». Гэтыя 27–30% тычацца дэпазітаў, тэрмін размяшчэння якіх — ад ультракароткіх (10 дзён) да паўгода. Тое, што больш за паўгода, ідзе ўжо пад 30–31%. Дык які сэнс размяшчаць аблігацыі на 18 месяцаў пад 21%?

Відавочна, што пры такой палітыцы Мінфіна ў дачыненні да аблігацыяў попыту на іх не будзе. Тым больш, што «супольнае» Міністэрства эканомікі, павышаючы прагноз інфляцыі да 17,3%, абгрунтавала гэтае павышэнне, па-першае, «вялікімі дэвальвацыйнымі чаканнямі», а па-другое, «рэальнай верагоднасцю зніжэння курсу нацыянальнай валюты вышэй, чым было запланавана». То бок, долар будзе расці, і насельніцтва, як і раней, чакае «абвалу» рубля.

Перадумоваў для такога абвалу пакуль што не бачна. На фоне «гандлёвага эмбарга» Расіі і чаканага на наступны год звароту ў беларускі бюджэт паловы расійскіх мытных пошлінаў на нафтапрадукты, «сінявокая» ў валютным плане выглядае даволі ўпэўненай. Канешне, дэфіцыт рахунка бягучых аперацый краіны ў гэтым годзе можа скласці $5 мільярдаў, але на фоне таго, што мы яшчэ «недаатрымалі» абяцаны Пуціным расійскі крэдыт у $2 мільярды ды разлічваем на іншую «знешнюю падтрымку», то гэта выглядае не так крытычна, як здавалася б.

І яшчэ адзін цікавы пункцік. У Беларусі ў жніўні чысты продаж замежнай валюты (наяўнай і безнаяўнай) з боку насельніцтва вырас да $92,3 мільёна з $48,7 мільёна ў ліпені. Насельніцтва «здала» банкам за жнівень $43,6 мільёна. То бок, як і прадугледжвалася, шмат у каго «накрыўся» гэтым летам планаваны адпачынак у Крыме, і людзі часткова засталіся ў Беларусі. Але адначасова гэта азначае, што і «валютныя заначкі» ў беларусаў «пахудзелі». А значыць, з першых нармальных пасля адпачынку заробкаў пачнецца тэндэнцыя іх умацавання, і попыт на валюту будзе ўзрастаць.

Карацей, тэндэнцыя аслаблення долара, высокая інфляцыя і ўзнаўленне валютных «падушак бяспекі» насельніцтвам не спрыяюць даверу да беларускага рубля. І нікуды не падзеліся «дэвальвацыйныя чаканні». У такой сітуацыі, каб умацаваць нацыянальную валюту, патрэбныя тытанічныя высілкі.

# Бізнес чуюць, але не разумеюць

**Гэтай восенню прадстаўнікі бізнес-супольнасці Беларусі павінны будуць сфармуляваць сваю замову на рэформы ў рамках праграмы «Рэфорум». Якіх жа пераўтварэнняў чакаюць айчынныя прадпрымальнікі?**

Як адзначае старшыня прэзідыума Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва (РКП), старшыня ГА «Мінскі сталічны саюз прадпрымальнікаў і працадаўцаў» Уладзімір Карагін, беларуская бізнес-супольнасць сістэмна выказвае ўладам свае пажаданні, штогод прадстаўляючы Нацыянальную платформу бізнесу Беларусі. У 2014 годзе было сфармулявана больш за 100 канкрэтных прапаноў.

«Безумоўна, найбольш важным блокам пераўтварэнняў з'яўляецца далейшае скарачэнне адміністрацыйных працэдур і стабілізацыя беларускага заканадаўства», — лічыць Карагін. Паводле яго слоў, «заканадаўчыя кіданні» (то ў дачыненні да імпарцёраў, то ў дачыненні да інвестараў, то ў пытанні падатковага рэжыму) ствараюць нетрывалую абстаноўку вакол бізнесу.

«Нас цураюцца патэнцыйныя партнёры, інвестары, а самі прадпрымальнікі не могуць спланаваць сваю працу не толькі ў аддаленай перспектыве (на 3–5 гадоў), але часам і на бліжэйшы квартал. Таму неабходна стабілізаваць беларускае заканадаўства, перайсці да больш адказнай палітыкі, асабліва ў сферы падатковага рэгулявання», — адзначае Уладзімір Карагін.

На яго думку, корань канкурэнтаздольнасці беларускіх кампаній знаходзіцца менавіта ў сферы падаткаў і падатковага адміністравання. «Таму падвышэнне падаткаў (а адпаведныя праекты ўрад разглядае) — безумоўна, абсалютна не правільная мера, на якую бізнес зрэагуе нагамі», — упэўнены Карагін.

Падатковая нагрузка павінна, наадварот, паэтапна зніжацца — гэта падтрымае развіццё ўстойлівасці і канкурэнтаздольнасці беларускіх прадпрыемстваў. Карагін звярнуў увагу на тое, што сёння ў Беларусі больш за 40% суб'ектаў бізнесу (перш за ўсё малога і сярэдняга) не маюць ніякага прыбытку і працуюць сабе на страту.

Другім важным напрамкам пераўтварэнняў павінна стаць развіццё рынку каштоўных папер і ажыўленне рынку фінансавых паслуг у цэлым.

«Трэба пашырыць доступ да фінансаў, магчыма, і да міжнародных фінансаў. Таму што сёння адной з найважнейшых перашкодаў для развіцця бізнесу з'яўляюцца складаны доступ да фінансаў і непад'ёмныя стаўкі фінансавання», — лічыць Карагін.



Уладзімір Карагін і Мікалай Снапкоў

Хоць Нацбанк і робіць намаганні па зніжэнні стаўкі рэфінансавання, але ў цэлым крэдыты ў камерцыйных банках вельмі дарагія. Большасць суб'ектаў малога і сярэдняга прадпрымальніцтва не маюць фактычна ніякіх назапашванняў (закладаў, дэпазітаў), амаль адсутнічаюць абаротныя сродкі.

«Таму ўраду неабходна больш актыўна стымуляваць стварэнне венчурных і інвестыцыйных фондаў», — падкрэслівае Карагін.

Ён канстатуе, што ў Беларусі сёння адсутнічае такое звяно, як інвестыцыйныя і гарантыйныя фонды, і ўраду трэба больш рашуча дзейнічаць у гэтым кірунку. Стварэнне такіх фондаў знізіла б рызыкі банкаў пры выдачы крэдытаў суб'ектам малога і сярэдняга прадпрымальніцтва і сур'ёзна дапамагло б развіццю бізнесу.

Уладзімір Карагін таксама адзначае, што сёння неабходна ва ўсіх раёнах Беларусі стварыць дыялогавыя пляцоўкі бізнесу і ўлады. Паводле яго слоў, на дадзены момант дыялог бакоў ідзе «па вярхах», пераважна ў Мінску і часткова на абласным узроўні. А павінен ісці ў кожным раёне.

«Мы прапануем у кожным раёне стварыць тры тыпы пастаянна дзеючых рабочых груп: парады па развіцці вытворчага прадпрымальніцтва, па развіцці гандлю і па развіцці паслуг. У гэтых саветах у разрэзе раёнаў разглядаліся б стварэнне ўмоў устойлівага развіцця рэгіёну і бізнесу, перспектыўныя праекты, якія маглі б атрымаць дапамогу як з боку ўладаў абласнога ўзроўню, так і з боку міжнародных эканамічных арганізацый», — кажа Карагін.

Асобнае пытанне: наколькі ўлада гатовая ісці насустрач бізнес-супольнасці ў яе патрэбах. Кіраўнік РКП прызнае, што «наверсе» сёння сапраўды чуюць голас прадпрымальнікаў, гатовыя разглядаць іх прапановы, аднак гэтага мала.

«Чуць, але ці заўсёды гатовыя зразумець, прыняць і пачаць дзейнічаць? Не, не заўсёды. Не заўсёды прапановы ўспрымаюцца ў сілу таго, што многія чыноўнікі не маюць эканамічнай адукацыі, вопыту прадпрымальніцкай дзейнасці, не думаюць канструктыўна і маштабна, з-за чаго прапановы альбо не ўспрымаюцца, альбо прымаюцца палавіністыя, супярэчлівыя рашэнні. І гэта праблема, таму што мы губляем самы галоўны фактар эканомікі — час», — падкрэсліў Уладзімір Карагін.

**Андрэй Шынгароў, «Беларусы і рынак»**
**Пераклад НЧ**

TV

## 19 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія). 2-я серыя.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**14.05** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Маша ў законе!» (Расія). 4-я серыя.
**16.25** Серыял «Сямейныя меладрамы-2» (Украіна).
**17.15** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**18.10** «Terra incognita». Беларусь невядомая.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё нанова» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Крымінальная камедыя «Вялікі куш» (ЗША).
**23.40** «Беларусь у развіцці». Цыкл дакументальных фільмаў.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Камедыйны серыял «Маша ў законе!» (Расія). 4-я серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** Тэлесерыял. «Павер мне».
**13.00** Нашы навіны.
**13.10** Мультфільмы.
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зваротны адлік».
**15.30** «Вучыцца жыць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Мастацкі фільм «Мой вялікі грэцкі скарб».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне Беларусь».
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вячэрні Мінск».
**22.10** «Голас».
**00.20** Мастацкі фільм «Канкан».
**02.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Дакументальны спецпраект».
**10.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Смяротная бітва: вынішчэнне» (ЗША, 1997 г.).
**15.35** «Мае цудоўныя..».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Недарэкі» (ЗША, 2000 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы сэнсэя». Відэафільм.
**23.30** «Ежа багоў».
**00.25** «Вялікая гульня». Покер.
**01.10** Фільм «Нікі, д'ябал - малодшы» (ЗША, 2000 г.).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка» (Украіна).
**10.15** Беларуская кухня.
**10.50** Вострасюжэтны дэтэктыў «Кулінар» (Расія).
**12.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**12.35** Музычная камедыя «Беражыце жанчын» (СССР). 1-я і 2-я серыі.



**15.05** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**16.10** Вось дык так!
**16.45** Меладраматычны серыял «Сашка» (Украіна).
**17.55** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія).
**18.55** Прыгодніцкі баявік «Маска Зора» (ЗША).
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоу (Расія).
**23.15** Рэпарцёр.
**00.05** Трылер «Паркоўка» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Узброены і вельмі небяспечны». Мастацкі фільм.
**09.45** «Навукаманія». Сваляваыя клеткі.
**10.15** «Не бойся, я з табой!» Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**12.45** «Персона». Анастасія Мельнікава.
**13.05** «Калейдаскоп».
**13.20** «Аўтограф». Іна Асламава. Цела ўсяго жыцця.
**13.45** «Сакавік-красавік». Кароткаметражны фільм.
**14.45** «Кругі надзеі». Дакументальны фільм пра паэта Сяргея Грахоўскага.
**15.15** «Слуцкія паясы». Дакументальны фільм пра гісторыю ўзнікнення слуцкіх паясоў.
**15.45** «Клетка малпы». Мастацкі фільм.
**17.00** «Юбілейны канцэрт ансамбля «Сябры». 2014».
**19.05** «Калейдаскоп».
**19.20** «Пад каменным небам». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.00** Сусветнае кіно. «Андрэй Рублёў». 1-я і 2-я серыі.
**23.55** «АРТиШОК». Артыст Вячаслаў Іназемцаў.
**00.25** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Тэніс. Турнір ВТА. Токіо. Чвэрцьфіналы. Прамая трансляцыя.
**15.05** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Панацінаікас» - «Дынама» (Масква).
**16.55** Авертайм.
**17.25** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Фіярэнціна» - «Генгам».
**19.20** Фактар сілы.
**19.50** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. ПАОК - «Дынама» (Мінск).
**21.40** Рэаліці-шоу «Mix Fight» - новыя гарызонты».
**22.30** Еўрапейскі покерны.
**23.25** Тэніс. Турнір ВТА. Токіо. Чвэрцьфінал.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Два на два (тэледыскусія): Барыс Гарэцкі і Арцём Шрайбман.
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.40** Відзьмо-невідзьмо.
**11.05** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: 1 серыя.
**11.40** «Крэпасць», дак. фільм, 2012 г., Чэхія.
**12.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.25** Два на два (тэледыскусія): Барыс Гарэцкі і Арцём Шрайбман.
**13.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.25** Аб'ектыў.
**14.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**16.10** Рэпартэр.
**16.35** «Крэпасць» (Pevnost/Fortress), дак. фільм, 2012 г., Чэхія.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Ігнат Дамейка.
**18.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Піяр для беларускай культуры.
**18.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.20** Моўнік (лінгвістычная праграма): «Мужчынскі характар» мовы («Доўгая» ці «доўгі» цень?).
**19.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.20** «Дысідэнт з КДБ», дак. фільм, 2010 г., Францыя–Канада–Швейцарыя.
**23.15** «Што бачыла сонейка», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**01.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**02.00** Моўнік (лінгвістычная праграма): «Мужчынскі характар» мовы («Доўгая» ці «доўгі» цень?).
**02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.40** Аб'ектыў.
**03.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**04.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

## 20 ВЕРАСНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Існасць.
**07.45, 09.10** Прэм'ера! Меладрама «Фота на дакументы» (Украіна).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.45** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Дача.
**12.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.25** Давярай і правярай.
**14.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Беларусь у развіцці». Цыкл дакументальных фільмаў.
**16.05** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.15** Меладрама «Каб я была царыца..» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Драма «Дом на абочыне» (Расія).
**23.35** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** АНТ прадстаўляе: Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**12.30** «Уладзімір Мяньшоў».
**13.40** КВЗ. Летні кубак у Сочы.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.45** «100 мільёнаў».
**18.35** «Калі свякроў - монстр». Мастацкі фільм.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера АНТ. «Хачу да Меладзе».
**23.05** Сёння вечарам.

### СТВ

**06.25** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**07.15** Фільм «Недарэкі» (ЗША, 2000 г.).
**09.05** «Чысты праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.45** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** Фільм «Каханая жанчына механіка Гаўрылава» (СССР, 1981 г.).
**15.10** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.35** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Напруж звіліны» (ЗША - Канада, 2008 г.).
**22.15** СТВ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**23.20** Фільм «Атака на Пэрл-Харбар» (Японія, 2011 г.).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Мастацкі фільм (СССР).
**08.25** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.20** Беларуская кухня.
**10.00** Тэлебарометр.
**10.05** «Два з паловай кухары». Кулінарнае шоу-праграма (Расія).
**10.35** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**11.45** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**13.20** Вось дык так!
**13.55** Псіхалагічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія). Заключныя серыі.
**16.10** Крымінальны дэтэктыў «Марыя Верн: Снежныя мары» (Швецыя).
**17.55** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**20.40** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**21.45** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.55** Псіхалагічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія). Заключныя серыі.
**00.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Пад каменным небам». Мастацкі фільм.
**09.40** «АРТиШОК». Артыст Вячаслаў Іназемцаў.
**10.05** «Легенды кіно». Гісторыя стварэння легендарнага фільма «Шукальнікі шчасця».
**10.20** «Шукальнікі шчасця». Мастацкі фільм.
**11.40** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**12.10** «Калейдаскоп».
**12.25** «Дзелавыя людзі». Мастацкі фільм.
**13.50** «Белыя ваўкі». Мастацкі фільм.
**15.20** «Калейдаскоп».
**15.35** «Палацы Крамля». Дакументальны фільм.
**15.55** «Сола для трубы». Дакументальны фільм пра вядомага музыканта Э.Рознера.
**16.50** «Чароўная мелодыя для сяброў». Канцэрт джазавага музыканта Анатоля Кальварскага.
**18.05** «Дыя@блог P.S.».
**18.35** «Легенда пра княгіню Вольгу». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.10** Сусветнае кіно. «Чачара».
**22.50** «Лёсы палонных генералаў». «Кіеўская катастрофа» Дакументальны фільм.
**23.45** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Тэніс. Турнір ВТА. Токіо. Паўфіналы. Прамая трансляцыя.
**10.05** Рэаліці-шоу «Mix Fight» - новыя гарызонты «.
**10.50** Тэніс. Турнір ВТА. Токіо. Паўфіналы.
**14.55** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - «Заграб». Прамая трансляцыя.
**16.30** Авертайм.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Тарпеда» (Ніжні Ноўгарад). Прамая трансляцыя.
**19.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вест Хэм» - «Ліверпуль». Прамая трансляцыя.
**21.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Астан Віла» - «Арсенал».
**23.20** Еўрапейскі покерны тур.

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**07.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): «Мужчынскі характар» мовы («Доўгая» ці «доўгі» цень?).
**08.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.50** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**11.00** «Між намі, буслам», анімацыйны серыял для дзяцей: 3 серыя.
**11.25** «Лонданцы II», серыял: 2 серыя.
**12.10** «Час гонару», серыял: 3 серыя.
**13.00** Два на два (тэледыскусія): Барыс Гарэцкі і Арцём Шрайбман.
**13.30** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**13.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.30** «Што бачыла сонейка», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**16.25** Моўнік (лінгвістычная праграма): Так гавораць на Браслаўшчыне.
**16.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.20** «Крэпасць», дак. фільм, 2012 г., Чэхія.
**18.30** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял: 2 серыя.
**19.15** «Дысідэнт з КДБ», дак. фільм, 2010 г., Францыя–Канада–Швейцарыя.
**20.10** Форум (ток-шоу): Нацыя піратаў.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: 2 серыя.
**21.45** Суботні сеанс: «Эксклюзіў», дэтэктыўная камедыя, 2006 г., ЗША.
**23.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ганна Кісліцына.
**00.20** Аб'ектыў.
**00.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

## 21 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Драма «Дом на абочыне» (Расія).
**08.50** Слова мітрапаліта Паўла.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Давярай і правярай.
**14.50, 17.05** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Журналісцкае расследаванне.
**16.50** Нашы.
**17.15** Меладрама «Цячэ рака Волга» (Расія).
**19.10** Меладрама «Фота на дакументы» (Украіна).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Камедыя «Кантроль над гневам» (ЗША).
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты-6» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Гісторыя Расійскай кухні».
**12.05** «Ералаш».
**12.55** «Брэйн-рынг».
**13.55** «Якраз як».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Якраз як». Працяг.
**17.00** «Насмяшы коміка».
**17.45** «Чорна-белае».
**18.50** «Я люблю Беларусь».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Подых планеты».
**21.45** «Ледніковы перыяд».
**00.25** Што? Дзе? Калі?

### СТВ

**06.05** «Фірмовая гісторыя». Серыял.
**07.40** «Сардэчна паскардзіцца».
**08.00** Фільм «Напруж звіліны» (ЗША - Канада, 2008 г.).
**10.00** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Тэрыторыя памылак».
**12.35** «Добры дзень, доктар».
**13.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**14.15** Фільм «Жанаты халасцяк» (СССР, 1982 г.).
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.25** СТВ прадстаўляе: вячэрні шоу «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Няскораны» (ЗША, 2009 г.).
**23.05** «Глядзець усім!».
**00.45** Фільм «Сёмая пячатка» (Швецыя, 1957 г.).

### Беларусь 2

**07.05** Мастацкі фільм «Старая, старая казка» (СССР).
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.40** Мазгавы штурм.
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Я хачу гэта ўбачыць!
**10.55** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**11.30** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**12.40** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.45** Вышэй за дах.
**15.25** Прыгодніцкі фільм «Маска Зора» (ЗША).
**18.05** «Comedy Баттл. Без межаў». Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлата.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Рэальны свет.
**21.45** Камедыйны серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.55** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія). 1-я і 2-я серыі.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Размовы пра духоўнае».
**08.25** «Легенда пра княгіню Вольгу». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**10.35** «Подых струн». Музычная праграма.
**11.15** «Наперад у мінулае».
**11.40** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.50** «Размовы пра духоўнае».
**13.00** «Навукаманія». Палімеры: мінулае, сучаснасць, будучыня.
**13.25** «Лёсы палонных генералаў». «Кіеўская катастрофа» Дакументальны фільм.
**14.20** «Подых струн». «Вольга Залеская і яе асяроддзе».
**15.10** «Калейдаскоп».
**15.25** «Размовы пра духоўнае».
**15.35** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма-казкі «Горад майстроў».
**16.00** «Горад майстроў». Мастацкі фільм.
**17.20** «Культпрасвет».
**17.50** Сусветнае кіно. «Андрэй Рублёў». 1-я і 2-я серыі.
**20.45** Калыханка.
**21.20** «Вар'яцкае жыццё Сальвадора Далі». Спектакль. Часткі 1-я і 2-я.
**23.20** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**06.00** Тэніс. Турнір ВТА. Токіо. Фінал. Прамая трансляцыя.
**08.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Астан Віла» - «Арсенал».
**10.00** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Тарпеда» (Ніжні Ноўгарад).
**11.50** Тэніс. Турнір ВТА. Токіо. Фінал.
**13.55** Гандбол. SEHA-ліга. БГК ім. Мяшкова - «Заграб».
**15.25** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Тарпеда-БелАЗ» - ФК «Гомель». Прамая трансляцыя.
**17.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстэр Сіці» - «Чэлсі». Прамая трансляцыя.
**20.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Лестэр» - «Манчэстар Юнайтэд».
**21.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Эвертан» - «Крыстал Пэлас».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**08.00** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 3 серыя.
**08.20** Фітнес-шмітнес.
**08.40** Маю правы (юрыдычная праграма).
**09.00** Два на два (тэледыскусія): Барыс Гарэцкі і Арцём Шрайбман.
**09.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: 2 серыя.
**10.50** Казкі для дзетак: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі».
**11.05** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 4 серыя.
**11.30** «Mad Men. Утрапёныя-2», серыял: 2 серыя.
**12.20** «Час гонару», серыял: 4 серыя.
**13.10** «Дысідэнт з КДБ», дак. фільм, 2010 г., Францыя–Канада–Швейцарыя.
**14.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Так гавораць на Браслаўшчыне.
**14.40** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Піяр для беларускай культуры.
**15.05** Два на два (тэледыскусія): Барыс Гарэцкі і Арцём Шрайбман.
**15.40** «Эксклюзіў», дэтэктыўная камедыя, 2006 г., ЗША.
**17.10** Форум (ток-шоу): Нацыя піратаў.
**17.55** «Ранча», серыял: 54 серыя.
**18.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Францішак Багушэвіч.
**19.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**19.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** Дакументальная гадзіна: «Нафтаправод за плотам», дак. фільм, 2005 г., Францыя.
**22.05** Фільматэка майстроў: «Горкі месяц», драма, 1992 г., Францыя–Вялікабрытанія–ЗША.
**00.20** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял 7 серыя.
**01.05** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм, 2013 г., Беларусь: 2 серыя.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА — ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА [ ] НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ [ ]

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка [ ] уведомление [ ] простое [ ] заказное [ ] электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ______
Всего ______

# Адзіны дзень галасавання і хамон

**14 верасня ў Расіі пройдзе т. зв. адзіны дзень галасавання. Пра палітычную атмасферу напярэдадні выбараў журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з маскоўскім калегам Сяргеем Кастэнкам.**



***— У Расіі галасуюць два разы на год — увосень і ўвесну. Гэтай восенню будуць галасаваць за дэпутатаў у мясцовыя саветы і мэраў. Ці ёсць нейкая інтрыга на гэтых выбарах?***

— Па вялікім рахунку, няма. Калі недзе дэмакраты і перамогуць (напрыклад, добрыя шансы мае Леанід Ярмольнік), наўрад ці гэта паўплывае на агульны палітычны фон. Няма сумневаў, што большасць мандатаў атрымае праўладная «Адзіная Расія». І ў гэтым заключаецца парадокс цяперашніх выбараў. Партыя-пераможца на самай справе мае ў народзе імідж партыі «жуликов и воров». Каб асабліва не дражніць выбаршчыка, «Адзіная Расія» часта ідзе на выбары ў складзе блокаў і кааліцый пад новымі гучнымі брэндамі. Напрыклад, у Маскве адзінаросы балатуюцца ў складзе грамадзянскай ініцыятывы «Мая Масква».

***— Год таму Навальны набраў на выбарах мэра Масквы 27 працэнтаў і заняў другое месца. Гэты поспех выклікаў эйфарыю ў антыпуцінскім лагеры. Выбары ў маскоўскую дзяржduму разглядаліся як важны этап будаўніцтва апазіцыі, здольнай кінуць выклік Пуціну. Аднак асаблівa апазіцыя сябе не праявіла.***

— Гэта цяжка асэнсаваць... 

— Гэта цяжка аспрэчыць. «Грамадзянская платформа» — найбольш актыўная апазіцыйная сіла на гэтых выбарах — карыстаецца падтрымкай не больш 5–7 працэнтаў масквічоў. Былі чуткі, што кандыдаты ад «Грамадзянскай платформы» нават збіраліся зняцца з выбараў, каб не дэманстраваць на людзях сваю электаральную слабасць. Няма сумневаў, што апатыя дэмакратаў звязана з украінскімі падзеямі, якія змянілі прыярытэты грамадства і кансалідавалі выбаршчыка вакол улады. Некаторай кампенсацыяй для апазіцыі за правал можа паслужыць спасылка на тое, што харызматычны Аляксей Навальны, які мог стаць флагманам апазіцыі на выбарах 14 верасня, знаходзіцца пад хатнім арыштам.

***— Не так даўно былі абвешчаныя прысуды Удальцову і Разважаеву — фігурантам «Балотнай справы». Абодва атрымалі дастаткова вялікія турэмныя тэрміны да 5 гадоў. Такія суровыя вердыкты даволі дзіўныя на фоне высокага рэйтынгу Пуціна. Навошта так распраўляцца з апанентамі, якія і так не ўяўляюць пагрозы?***

— Скажу больш: той жа Удальцоў у лістах з турмы да паплечнікаў заклікаў іх падтрымаць анексію Крыму і данецкіх сепаратыстаў. Аднак на пуцінскую Феміду гэта не паўплывала. Тыя, хто замаўляў расправу над «балотнікамі», хацелі давесці грамадству, што любы пратэст будзе пакараны максімальна жорстка. Гэта таксама цалкам кладзецца ў парадыгму патрыятычнай паранойі, якая ахапіла нашы ўлады. Яны паўсюдна бачаць крамолу і след Дзярждэпу.

***— Як сябе адчувае ў цяперашняй сітуацыі сістэмная апазіцыя — камуністы, ліберал-дэмакраты і «Справядлівая Расія»?***

— Вельмі нязручна, паколькі любую крытыку на адрас Пуціна могуць лёгка трактаваць як падтрымку Белага Дому. У такіх умовах ім застаецца толькі спрабаваць пераплюнуць Крэмль на глебе кваснога патрыятызму. Гэта часам выглядае досыць камічна. Дастаткова ўзгадаць спрэчку паміж жырыноўцамі і камуністамі за тое, хто першы прыдумаў законапраект аб абавязковым выкананні дзяржгімну падчас школьных перапынкаў.

***— Па інтэрнэту гуляюць чуткі пра тысячы расійскіх жаўнераў, якія загінулі ва Украіне, змагаючыся на баку ДНР-ЛНР. Кажуць, што ў расійскае паўсядзённае жыццё вяртаецца чачэнскі сіндром.***

— Я пакуль не чую, каб у быту нехта казаў пра сваіх родных або сяброў, якія, будучы прызванымі ў войска, ваююць або загінулі ва Украіне. На маю думку, колькасць расійскіх валанцёраў у Данбасе не крытычная. Туды галоўным чынам у рамкам спецкамандзіровак пасылаюць кадравых афіцэраў. Таксама туды едуць за доўгім рублём. І першыя, і другія ведаюць, чым рызыкуюць.

***— Ва Украіне шмат спекуляцый наконт таго, што вяртанне ўдзельнікаў АТА з фронту можа выклікаць сапраўдную рэвалюцыю. Ці магчыма такая перспектыва, калі ў Расію з Данбасу пачнуць вяртацца баевікі?***

— Тое, што «данецкія» могуць паўплываць на палітычны працэс, як у свой час афганцы, не выключана. Аднак гэта не выклік сістэме. У адрозненне ад украінскіх байцоў, расіяне на Данбасе лаяльныя да ўлады. Па-другое, усе іх лідары накшталт Стралкова, відавочна звязаныя з ФСБ, і любых ветэранаў Данбасу можна будзе лёгка скіраваць у патрэбны накірунак. Хутчэй за ўсё, Крэмль выкарыстае іх у сваіх мэтах, для расправы з той жа апазіцыяй.

***— Якія прагнозы наконт палітычнай будучыні Стралкова, з якога расійская прапаганда зрабіла ледзь не героя?***

— Стралкоў, безумоўна, кумір масаў. У дадатак, у яго атачэнні з'явіліся алігархі. Усе разглядаюць яго як перспектыўнага палітыка. Аднак канчатковае рашэнне наконт палітычнай кар'еры Гіркіна-Стралкова будуць прымаць у Крамлі.

***— Ці бачныя ўжо ў крамах наступствы эмбарга?***

— Пакуль таго ж хамона або элітных сыроў паўсюль дастаткова (іх з-за высокага кошту і так ніхто асабліва не набывае). Заўважна даражэй стала толькі чырвоная рыба. У правінцыі, дзе ўзровень спажывецтва ніжэй за сталіцу, прадуктовай вайны ўвогуле, думаю, не заўважылі. Народ звычайна асабліва вустрыц і маскарпонэ не ўжывае. Хіба што ў Калінінградзе кепска. Там рынак вельмі залежаў ад прадуктовых паставак з Літвы і Польшчы. Вось там кошты выраслі на ўсю таварную лінейку.

***— Вельмі супярэчлівая інфармацыя прыходзіць пра турыстычны бум у Крыме. Ці сапраўды гэтым летам было модна адпачываць на крымскіх курортах?***

— Нейкая істэрыка сапраўды была, і на гэтым пагарэла вялікая колькасць турапаратараў. У выніку жадаючых адпачываць у Крыму аказалася не так шмат. Тыя, хто там быў, прынамсі масквічы, па маіх назіраннях, вельмі расчараваныя: крымскія курорты на парадак адстаюць ад турэцкіх, дзе яны звычайна праводзяць адпачынак. Аматары Крыму, якія бываюць там штогод, лічаць, што турпаток у Крым упаў на 40–60 працэнтаў. Шмат хто кажа, што больш у Крым не паедзе. Хацелася б верыць, што гэта першыя, хай і слабыя, адзнакі разбурэння навязанага прапагандай імперскага комплексу.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У нас яшчэ той хаўруснік. Узяў і перадаў Турчынаву карту расійскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі, паставіў ва ўкраінскую армію тэхніку, праўда, колавую — цягачы. Украінскія танкі запраўляюцца саляркай, якую беларусы робяць з нашай нафты. Бацька, па сутнасці, на баку Кіева. А Масква трывае... І кантрабанду сцерпіць, таму што мы павязаныя Мытным саюзам. А Лукашэнка зарабляе балы перад Захадам: яму неабходна, каб у 2015 годзе яго выбары прызналі.

**«Аргументы и факты» (Расія)**

Беларусь — фатальная для Расіі краіна. Тут у Белавежскай пушчы ў 1991 годзе скончыўся мінулы Рускі свет. Так што дарма Пуцін вырашыў зрабіць стаўку на Мінск як месца перамоваў. Гэтым разам Рускі свет зноў прайграе.

**УНІАН (Украіна)**

Беларусь зрабіла першы крок да аднаўлення рэальнай дзяржаўнай мяжы з Расіяй, якая існавала з 1991 па 1995 год. Указам Аляксандра Лукашэнкі на прымежнай з Расіяй тэрыторыі ўводзіцца асаблівы рэжым, аналагічны таму, які дзейнічае каля межаў рэспублікі з Еўрасаюзам. Такім чынам беларускі прэзідэнт спрабуе націснуць на расійскае кіраўніцтва і паказаць Еўропе сваю незалежнасць ад Масквы, лічаць эксперты.

**«Газета Ру» (Расія)**

Улада ж Беларусі забараніла адзначаць перамогу ў бітве пад Оршай, там, дзе ўрэшце і трэба было б гэта зрабіць... А была запланавана вялікая праграма з удзелам дыпламатаў, палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, якая павінна была завяршыцца вялікім канцэртам. Толькі ўсталявалі на полі бітвы барэльефы палкаводцаў — Канстанціна Астрожскага, Юрыя Радзівіла, Івана Сапегі, на камянях высечаныя дата бітвы і словы з песні аб гэтай падзеі. Афіцыйны Мінск не хоча раздражняць Расію.

**«Дзеркало Тижня» (Украіна)**

Украінскі крызіс падняў цану стабільнасці і бяспекі для беларусаў. Падзеі ў Кіеве, затым на ўсходзе Украіны — а большасць жыхароў Беларусі ўспрымае іх праз расійскія тэлеканалы — звялі да нулявой адзнакі пратэстныя настроі. Апазіцыя не можа вызначыцца з адзіным кандыдатам, дзе ўжо тут яшчэ і думаць пра нейкі свой Майдан.

**«RFI» (Францыя)**

Пуцін хоча эканамічна злучыць усе былыя савецкія рэспублікі, акрамя прыбалтыйскіх, у адзіную эканамічную зону. Першымі ўдзельнікамі сталі Расія, Казахстан і Беларусь. У Казахстана была цікавасць хутчэй стратэгічная. Казахстану патрэбен быў вялікі і надзейны партнёр у яго адносінах з Кітаем. А ў Беларусі, а дакладней у А. Лукашэнкі, папросту не было выбару. Каму ён патрэбны ў Еўропе? Са сваімі МАЗамі і бульбай? І Еўропа не стала б трываць яго дыктатуру. Так што ў Лукашэнкі папросту выбару не было.

**«Азия» (Манголія)**

Ідэю правесці прэзідэнцкія выбары на паўгода раней вылучылі беларускія ліберал-дэмакраты. Мясцовая грамадскасць уключылася ў дыскусію, лічачы такое развіццё падзей вельмі верагодным. Галоўны прэтэндэнт — дзейны прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка — на фоне падзей ва Украіне і Расіі знаходзіцца ў выдатнай палітычнай форме. Важна паспець перабрацца, пакуль сітуацыя не змянілася.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАНАДА. Эскімосы патрабуюць незалежнасці

Савет племені эскімосаў у адной з канадскіх правінцый заявіў пра поўны суверэнітэт над землямі, дзе пражывае гэты паўночны народ. У заяве, апублікаванай 8 верасня, савет эскімосаў, якія, дарэчы, жывуць у трох правінцыях, заявіў, што ўся зямля і яе нетры належаць нацыі, якая першай засяліла гэтыя землі, а менавіта ім. У якасці першага кроку ў накірунку аднаўлення поўнага суверэнітэту тубыльцы прапануюць усім кампаніям, якія здабываюць тут карысныя выкапні, заключыць з імі асобную дамову. Канадскім уладам будзе вельмі цяжка аспрэчыць рашэнне эскімосаў, паколькі ў чэрвені суд правінцыі Брытанская Калумбія, прадстаўнікі якой у тым савеце таксама засядаюць, прызнаў права органаў самакіравання эскімосаў і індзейцаў прымаць рашэнні па пытаннях маёмасці. Калі эскімосы абароняць сваё рашэнне, на тэрыторыі Канады фактычна ўзнікнуць падмуркі новай дзяржавы памерам каля 80 тысяч кіламетраў. Дэмарш эскімосаў можа мець цікавыя геапалітычныя наступствы, паколькі ў бліжэйшы час чакаецца буйное канадска-расійскае супрацьстаянне за Арктыку. Калі ў Паўночнай Канадзе паўстане рух эскімосаў-сепаратыстаў, кацірочкі канадцаў у бітве за Арктыку будуць не такія высокія.

**Паводле канадскай прэсы**

### РУМЫНІЯ. Не ведаеш мовы — збірай чамаданы!

Партыя румынскіх венграў прапануе высяляць румынамоўных грамадзян з Трансільваніі (частка Румыніі, дзе жывуць этнічныя венгры). Самае цікавае, што такі праект прапанавала партыя Дэмакратычны саюз венграў Румыніі, які ўваходзіць у кіруючую кааліцыю краіны.

Так, Дэмсаюз прапануе перасяліць з тэрыторыі краю секееў —румынамоўных грамадзян, што не жадаюць у будучым падпарадкоўвацца венгерскай аўтаноміі. Таксама прапануецца пазбаўляць жыхарства тых, хто не вывучыць венгерскую мову. Праўда, улада аўтаноміі павінна прафінансаваць невенграмоўным румынам іх пераезд у іншы горад або вёску Румыніі. Зразумела, у Бухарэсце гэту ініцыятыву забракавалі. Міністр замежных спраў Румыніі заявіў, што прапановы такога кшталту «абсалютна непрымальныя», з'яўляюцца «экстрэмісцкімі ідэямі». Як лічаць назіральнікі, такое нахабства венгерскіх палітыкаў звязанае з тым, што імя будучага прэзідэнта будзе залежыць ад капрызу венгерскай камуны, чые галасы і вызначаць пераможцу. Такім чынам, практычна ўсе кандыдаты згодныя даць венграм аўтаномію.

**Паводле румынскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Пуцін скіне бомбу на Варшаву?



Прафесар Рамуальд Шарамецьеў, былы намеснік міністра абароны Польшчы і сябра кансерватыўнай партыі «Права і справядлівасць» (PiS), лічыць, што наступнай ахвярай Пуціна стане польская сталіца. Шарамецьеў кажа: «Калі шоку ад збітага самалёту недастаткова, каб прыняць адэкватныя меры ў адносінах да Расіі, то гэта будзе толькі заахвочваць яе. На мой погляд, атамнае бамбаванне Варшавы можа быць наступным крокам Пуціна... Можа быць, ядзерны выбух у Варшаве будзе дастатковым стымулам, каб на Захадзе былі зробленыя канкрэтныя крокі ў кірунку Расіі». Першым крокам у падрыхтоўцы да атакі на Варшаву стала, на думку палітыка, тайная інструкцыя, якую падпісаў Пуцін. Калі верыць Шарамецьеву, у ёй дадзены загад на атаку Польшчы, на іншыя краіны ЕС, якія не маюць атамнай зброі. Польскае грамадства вельмі асцярожна паставілася да слоў Шарамецьева, паколькі PiS спрабуе прыцягнуць сімпатыі выбаршчыкаў менавіта на тэме расійскай пагрозы. Між тым, ёсць думка, што заява Шарамецьева — гэта не піяр або трызненне. Проста краіны Усходняй Еўропы пачынаюць змагацца за права прыняць у сябе базы NATO (апошні саміт Паўночнаатлантычнага альянсу вырашыў размясціць пяць дадатковых баз на ўсходзе Еўропы). Кожная краіна хоча мець у сябе такую базу, што аўтаматычна памяншае перспектыву стаць наступнай ахвярай Масквы.

**Паводле польскай прэсы**

# Шатландыя — гэта не Данбас

Алег НОВІКАЎ

**Данецкія сепаратысты намагаюцца выкарыстаць рэферэндум аб незалежнасці Шатландыі ў якасці доказу права выхаду Данбаса са складу Украіны.**



Не толькі Вялікабрытанія, аднак і ўвесь свет літаральна застылі ў чаканні вынікаў рэферэндуму ў Шатландыі. Як ужо падлічыла брытанскае выданне «The Telegraph», перамога незалежнікаў здольная гавальванізаваць сепаратысцкія рухі як мінімум у дзясятцы краін (Іспанія, Бельгія, Італія, Індыя, Кітай і г.д.). Хаця ўжо зараз, не чакаючы вынікаў плебісцыту, шматлікія сепаратысты, патрабуючы стварэння новых дзяржаў або пашырэння правоў аўтаноміі, ахвотна спасылаюцца на прыклад Шатландыі.

Напрыклад, актыўна экстрапалююць палітычны працэс у Шатландыі на Данбас. Газета «Guardian» цытуе пажылую жанчыну, удзельніцу мітынгу ў Данецку, якая кажа: «Мы любілі Украіну, пакуль яна не пачала бамбіць нас. Цяпер мы ніколі не зможам вярнуцца туды. Мы чытаем, што ў вас Шатландыя хоча аддзяляцца. Чаму вы не пасылаеце свае танкі туды, а замест гэтага пасылаеце іх сюды?»

Ускосна сімпатыі да шатландцаў у Данбасе тлумачацца таксама тым, што галоўным апанентам ідэі незалежнай Шатландыі выступае брытанскі прэм'ер Дэвід Кэмеран, які таксама вядомы як адзін з самых заўзятых саюзнікаў кіеўскай улады і прыхільнік максімальна жорсткіх эканамічных санкцый супраць Расіі.

Сепаратысцкія і рускія СМІ ахвотна смакуюць няўдачы Кэмерана на шатландскім фронце. Сайт «Аргументы недели» (Расія) піша: «Выхад Эдынбурга з 300-гадовага брытанскага саюза справакуе непрадказальную ланцуговую рэакцыю. Як мінімум, фрагменты таго, што яшчэ засталося ад Брытаніі — Англія, Уэльс і Паўночная Ірландыя — будуць вымушаныя перагледзець некаторыя з умоў сяброўства дзяржавы ў ЕС. Але, хутчэй за ўсё, толькі выхадам Шатландыі з Вялікабрытаніі справа не скончыцца. Напэўна, адразу абвострыцца і ірландскае пытанне. Успыхне і без таго неспакойны Ольстэр. Так што для Лондана наступаюць вельмі няпростыя часы. Спакойная і багатая краіна можа паўтарыць шлях Югаславіі. Цяпер падобны працэс адбываецца на Украіне. На Данбасе не спыняюцца баі. Так што прэм'еру Кэмерану варта больш думаць пра будучыню сваёй радзімы, а не пагражаць Расіі санкцыямі за спробу пагасіць «украінскія Балканы» і патрабаваць ад Кіева, каб Парашэнка спыніў ваенную аперацыю на ўсходзе Украіны».

Актыўнае выкарыстанне сепаратыстамі прыкладу Шатландыі як аргумента на карысць права Данбасу на выхад з Украіны прымусіла кіеўскія СМІ прыводзіць контраргументы. Перш за ўсё, у Кіеве звяртаюць увагу на тое, што жыхары Данбасу не з'яўляюцца асобным этнасам, у адрозненне ад горцаў-шатландцаў.

Інтэрнэт-выданне «Страйк» (Украіна) адзначае з гэтай нагоды: «У нашым выпадку гаворка ідзе аб далучэнні часткі гістарычнай Украіны да такога геапалітычнага гульца, як Расія. Трэба ўлічваць, што ўсе 23 гады сваёй незалежнасці Украіна існавала як адзіная краіна, без якіх-небудзь праяў сепаратызму, акрамя некаторых усплёскаў у Крыме. Гэта значыць, фактараў, якія аб'ядноўвалі Украіну, было больш, чым тых, што яе размяжоўвалі, да нядаўняга часу. Прыклад Данбаса — не такі, як прыклад Шатландыі ці Ірландыі. Гістарычна, гэты рэгіён не быў незалежным, а фактычна, быў толькі складнікам Расійскай Імперыі. Усходняя Украіна — гэта ўсё ж Украіна, а не Расія. На паўднёвым усходзе насельніцтва гэтага рэгіёну размаўляла па-ўкраінску або на дыялекце ўкраінскай мовы. Нават сёння руская мова ўкраінца адрозніваецца ад рускай мовы расіяніна. Культурна, усход Украіны таксама бліжэй да Украіны, чым да Расіі. Праява сепаратызму на ўсходзе Украіны — гэта ні што іншае, як спланаваная штучная сітуацыя».

Крытыкі ДНР-ЛНР звяртаюць увагу, што рух за незалежнасць Шатландыі паўстаў і развіваўся выключна ў акрэсленых прававых рамках. Параўноўваць гэты працэс з крывавым варварствам, якое назіраецца ва ўсходняй Украіне, папросту немагчыма.

Увогуле, на думку кіеўскіх палітолагаў, шатландскі рэферэндум — гэта хутчэй псіхалагічнае задавальненне, паколькі шатландцы ў выпадку атрымання суверэнітэту ўсё роўна застануцца жыць у складзе аб'яднанай Еўропы, у якой яны жывуць і сёння, будучы грамадзянамі Аб'яднага Каралеўства.

Аднак галоўнае адрозненне данбаскага і шатландскага сепаратызмаў — у іншым. Кампанія за незалежнасць Шатландыі мае пераважна левы сацыяльны характар. Шмат у чым яна пабудаваная на супрацьстаўленні рабочай поўначы краіны яе багатаму поўдню. Прыхільнікі незалежнасці агучваюць патрабаванні накшталт рэформы сістэмы аховы здароўя, бясплатнай адукацыі, лібералізацыі заканадаўства аб грамадзянстве, забароны ядзернай зброі — у прыватнасці, вываз усіх ядзерных боегаловак з тэрыторыі Шатландыі.

У гэтым плане параўнаць рух за незалежнасць Шатландыі і данбаскі сепаратызм адназначна цяжка. Ідэалагічная прырода рэжымаў ДНР-ЛНР дасюль застаецца загадкавай. За тры месяцы існавання гэтых нефармальных структур іх кіроўныя органы апублікавалі некалькі праграмных дакументаў, якія часам цалкам супярэчаць адзін аднаму. Напрыклад, красавіцкі праект канстытуцыі ДНР абвяшчаў па сутнасці стварэнне нейкага праваслаўнага халіфату: на Данбасе павінны былі быць забароненыя ўсе канфесіі, акрамя праваслаўнай, нетрадыцыйны сэкс і г.д. Пасля ад гэтага праекту, быццам, адмовіліся, але ўжо ў жніўні сцягам Навaросіі прапанавалі зрабіць бела-жоўта-чорны штандар — афіцыйны сцяг Расійскай імперыі ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

Імперская настальгія і адсутнасць абяцанняў перагляду вынікаў прыватызацыі выклікалі пратэсты сепаратыстаў, сярод якіх шмат прыхільнікаў СССР. Апошнія ў адкрытым лісце да кіраўніцтва ДНР-ЛНР патрабавалі дакладна вызначыцца з прынцыпамі данецкай дзяржаўнасці.

Пакуль сумнеўна, што Масква дасць згоду на шырокае дэмакратычнае абмеркаванне канцэпцыі данецкай дзяржавы (у тым ліку таму, што гэта адразу выклікае пытанне, наколькі народным з'яўляецца пуцінскі рэжым з яго алігархамі). Таму варта пагадзіцца з высновамі расійскага лібералa Канстанціна Баравога: «Калі галасаванне адбываецца не ва ўмовах дыскусіі, ніякіх аналогій з Шатландыяй быць не можа».




# Адтэрмінаваны Армагедон

Зміцер ГАЛКО

**Інцыдэнт з удзелам Эстана Кохвера адрадзіў у кагосьці ўжо прызабыты страх перад ядзернай вайной. А тое, што Кохвер не націснуў на курок, магчыма, адтэрмінавала яе.**

## Хто прыйдзе на дапамогу?

Эстонія — любімы вораг Расіі. Яшчэ задоўга да таго, як абвясцілі «фашысцкай» Украіну, у расійскіх СМІ называлі Эстонію «запаведнікам нацызму». У 2007 годзе тут выбухнуў «рускі бунт». Палітычныя спрэчкі вакол пераносу помніка савецкаму салдату з цэнтра Таліна на Вайсковыя могілкі перараслі ў масавыя беспарадкі з падпаламі, пагромамі і рабаваннем.

У сеціве тады распаўсюджвалася заява ад імя нейкага атраду Арміі рускага супраціву «Калывань» з пагрозамі перайсці да ўзброенай барацьбы за стварэнне «незалежнай рускай дзяржавы на тэрыторыі Эстоніі». Аўтары заявы таксама звярталіся да Уладзіміра Пуціна з просьбай «прыняць рэальныя меры па абароне рускага народа Эстоніі — увесці ў Эстонію расійскія войскі». На шчасце, тады да ўвядзення войскаў справа не дайшла.

Улічваючы гісторыю ўзаемаадносінаў з Расіяй, наяўнасць агульнай 300-кіламетровай мяжы і рэгіёну Іда-Вірумаа, насельніцтва якога на 73 працэнты складаецца з рускіх, зразумела, што цяперашнія падзеі на ўсходзе Украіны прымусілі Эстонію нервавацца. Эстонскі прэзідэнт Тоомас Хендрык Ільвэс заявіў латышскаму часопісу «Ir», што «рыхтуецца да вайны». Пазней ён выказаў жаданне размясціць у Эстоніі пастаянную базу NATO для абароны ад Расіі.

3 верасня Талін прымаў у сябе амерыканскага прэзідэнта Барака Абаму. Ён меўся развеяць асцярогі балтыйскіх краінаў адносна сваёй неабароненасці перад агрэсіўным суседам. Абама запэўніў, што сябрам NATO няма чаго баяцца. І паабяцаў размясціць у Эстоніі часткі ВПС ЗША.

## Шпіёнскі дэтэктыў

Толькі эстонцы ўздыхнулі з палёгкай, як ранкам 5 верасня «невядомыя асобы, якія прыбылі з тэрыторыі Расіі», захапілі і выкралі супрацоўніка эстонскай паліцыі бяспекі Эстана Кохвера. Тое, што падчас захопу была заглушаная радыё- і тэлефонная сувязь, а таксама выкарыстаныя дымавыя шашкі, наводзіла на думку аб працы прафесіяналаў. Але заставалася верагоднасць, што гэта крымінальны інцыдэнт без палітычнай падаплёкі. Кохвер займаўся барацьбой з арганізаванай злачыннасцю.

Але ФСБ Расіі заявіла аб затрыманні супрацоўніка эстонскай паліцыі бяспекі... на тэрыторыі Пскоўскай вобласці. Паводле ФСБ, Эстан Кохвер праводзіў тут «агентурную аперацыю». Лефортаўскі суд Масквы санкцыянаваў яго арышт на два месяцы па справе аб шпіянажы.

Трэба заўважыць, што ў дзень інцыдэнту эстонскімі і расійскімі памежнікамі быў падпісаны пратакол аб парушэнні дзяржаўнай мяжы Эстоніі. Тады абодва бакі пацвердзілі сваімі подпісамі, што на месцы здарэння былі знойдзены сляды ў напрамку з Расіі ў Эстонію і назад. Па версіі эстонскага боку, гэта даказвае, што Эстана Кохвера затрымалі менавіта на эстонскай тэрыторыі, пасля чаго даставілі ў Расію. Аднак 8 верасня прадстаўнікі расійскай памежнай службы раптам пачалі ўсё адмаўляць. Як лічаць у Эстоніі, падчас складання пратаколу расійскія памежнікі маглі яшчэ нічога не ведаць пра спецаперацыю ФСБ на мяжы. Цяпер жа ім патлумачылі, што да чаго.

## «Прыхлопні крата»

У выпадку праўдзівасці расійскай версіі, гэтую гісторыю можна было б лічыць шараговым эпізодам супрацьстаяння спецслужбаў. Толькі хто ж цяпер паверыць Расіі? Расійскія спецслужбы не першы раз трапляюць у скандал з выкраданнем чалавека на тэрыторыі іншай дзяржавы.

Не паверылі ў версію ФСБ многія заходнія СМІ. Найчасцей інцыдэнт на расійска-эстонскай мяжы ўвязваюць з візітам Барака Абамы ў Талін, бачачы ў ім жаданне Пуціна паказаць, хто сапраўдны гаспадар у гэтай частцы свету. Ці шырэй — з новым вітком супрацьстаяння паміж Расіяй і Захадам, звязаным з падзеямі на ўсходзе Украіны.

Як піша Кімберлі Мартэн у «The Huffington Post», з боку Пуціна гэта працяг гульні «прыхлопні крата», якую ён навязаў Украіне. Ёсць такая папулярная гульня на амерыканскіх кірмашах. Стаіць вялікі апарат з дзіркамі, адкуль перыядычна вылазяць у выпадковым парадку краты, задача гульца — паспець ударыць па іх малатком як мага хутчэй. У адным месцы прыхлопнеш, а ў іншых яшчэ некалькі вылезе, толькі паспявай лупцаваць. Так і Пуцін ва Украіне: то «зялёныя чалавечкі» ў Крыме, то «апалчэнцы» на Данбасе, то «гуманітарны канвой», то танкавыя армады. Цяпер вось выкраданне супрацоўніка паліцыі бяспекі на тэрыторыі краіны-чальца NATO.

Мартэн звяртае ўвагу на тое, чаму NATO не ў стане ўгнацца за Пуціным у гэтай гульні. Кіраўнікі дэмакратычных краінаў мусяць думаць пра рэакцыю СМІ і грамадскае меркаванне. Праз адкрытасць дзейнасці Паўночнаатлантычнага альянсу — ад ваенных выдаткаў да прымянення сілы, — ён пастаянна робіцца аб'ектам спрэчак і крытыкі. Да таго ж, яго рэакцыя запавольваецца неабходнасцю ўзгадняць пазіцыі 28 дзяржаў-чальцоў NATO. Сілы хуткага рэагавання ва Усходняй Еўропе, аб стварэнні якіх было заяўлена на апошнім саміце, па словах Кімберлі Мартэн, «усё роўна застаюцца тупым ваенным інструментам, ад якога не будзе шмат карысці супраць такога хітрага суперніка, як Пуцін, бо ён здабывае перавагу за кошт не зусім ваенных метадаў».

Усё гэта ставіць пад пытанне здольнасць NATO абараняць і рэагаваць на пагрозы бяспекі, з якімі сутыкаюцца некаторыя з новых дзяржаў-чальцоў. Можна прадказаць, што выкраданне Эстана Кохвера не будзе апошнім выпрабаваннем для NATO. Таму ЗША разам з саюзнікамі трэба выпрацоўваць больш творчыя падыходы, каб новыя пуцінскія «краты» не засталі іх знянацку.

## Тыгр адчуў смак крыві

«Investor's Business Daily» лічыць «лухтой» тлумачэнні расійскага боку наконт затрымання супрацоўніка эстонскай паліцыі бяспекі. На думку выдання, Пуцін «ткнуў тварам» Абаму ў яго абяцанне «тут і зараз» прыйсці на дапамогу Эстоніі ў выпадку замаху на непарушнасць яе межаў, прадэманстраваўшы, што яно пустое.

«Выкраданне Эстана Кохвера вельмі кепска паўплывае на Усходнюю Еўропу, якая толькі што бачыла, як Украіну змусілі да падпісання мірнай дамовы з Расіяй. Што ёй заставалася, калі ЗША і ЕС зрабілі вельмі няшмат, каб дапамагчы ёй абараніць сябе... Пуцін абраў Эстонію, бо яна мела нахабства прыняць у сябе амерыканскага прэзідэнта і прасіць аб стварэнні пастаяннай базы NATO. Без сумневу, ён хоча паглядзець, ці з'яўляецца NATO сапраўдным абарончым саюзам — ці гэта ўсяго толькі папяровы тыгр», — піша «Investor's Business Daily».

Мэцью Філіпс у «Bloomber Businessweek» задаецца пытаннем, дзе знаходзіцца парог зваротнай рэакцыі NATO, адзначаючы, што яго яўна спрабуе намацаць Пуцін. «Калі Паўночнаатлантычны альянс не заступіцца за Эстонію, за якую тады краіну ён заступіцца? Калі некаторыя чальцы NATO раўнейшыя за іншых, ці зможа альянс увогуле выстаяць і захавацца?» — пытае аўтар.

Рычард Фернандэс у «Pajamas Media» кажа пра тое, што мэтай выкрадання Эстана Кохвера было «прынізіць Абаму». Цытуючы словы амерыканскага прэзідэнта, сказаныя ім у Таліне, пра тое, што ў выпадку замаху на Эстонію Амерыка адразу ж прыйдзе ёй на дапамогу, аўтар саркастычна працягвае: «Пляснь. Выкраданне супрацоўніка эстонскай паліцыі бяспекі. Твар прамоўцы заляпаны гнілым памідорам?»

На думку Фернандэса, Пуцін выкарыстоўвае тактыку «нямога кіно».

«Пуцін здымае нямое кіно. Украіну ён акупуе ўпотай. Выкрутам атакуе Эстонію. Фінляндыю запужвае пантамімай (маюцца на ўвазе неаднаразовыя парушэнні паветранай прасторы Фінляндыі расійскімі самалётамі — аўт.). Ён робіць сваю брудную справу без адзінага гуку. Візуальны шэраг адназначны, але паколькі няма дыялогаў і музычнага суправаджэння, амерыканскі прэзідэнт не можа яму нічога адказаць», — разважае аўтар.

Ягоны прагноз трывожны і не вельмі суцяшальны.

«Як тыгр, які адчуў смак крыві, Пуцін пазбавіўся страху перад Абамам. Пакуль не будуць прынятыя меры засцярогі і звера не пасадзяць у клетку, свету пагражае вялікая небяспека. Але цяпер гэтага тыгра, якога раней можна было замкнуць у клетцы даволі лёгка, вярнуць туды можна будзе, толькі моцна рызыкуючы быць параненым або нават забітым...» — робіць выснову Фернандэс.

Галоўны рэдактар «American Thinker» Томас Ліфсан увогуле не выключае ядзернага апакаліпсісу.

«Мы ступілі на вельмі небяспечны шлях. Калі Расія ўбачыць, што пагрозы Абамы пустыя, гэта заахвоціць яе да далейшай эскалацыі. Пуцін ужо нагадаў пра ядзерную моц Расіі, зрабіўшы непрыхаваную пагрозу пачаць Трэцюю сусветную вайну ў выпадку адказу на яго агрэсіўныя дзеянні. Прадэманстраваўшы, што над ім можна беспакарана здзекавацца, Абама ўрэшце можа адказаць занадта позна і занадта моцна, што прывядзе да Армагедону. Слабасць правакуе. Абама ўпэўнены ў адваротным, і ён гэтак жа памыляецца, як калісьці Нэвіл Чэмберлен», — перасцерагае Томас Ліфсан.

Яшчэ год таму можна было б пакруціць пальцам ля скроні і абазваць аўтара такіх прагнозаў параноікам. Але цяпер нават самыя змрочныя сцэнары не падаюцца неверагоднымі.

Як сказаў спікер эстонскага парламента Эйкі Нестар: «Мы пачынаем пленарныя пасяджанні ў свеце, які вельмі змяніўся. У свеце, дзе адна імперыя пры дапамозе зброі бесцырымонна занялася пашырэннем сваёй сферы ўплыву... Сітуацыя ва Украіне, на жаль, нагадвае пра падзеі мінулага. Адчуванне, быццам чытаеш кнігу: Чэмберлен прынёс мір, Данцыг далучаны, а пасажырскі самалёт «Калева» збіты (самалёт, збіты савецкай авіяцыяй над Фінскім залівам летам 1940-га — аўт.)».

Бадай, застаецца толькі падзякаваць Эстану Кохверу, якому цяпер пагражае ад дзесяці да дваццаці гадоў турмы ў Расіі, што падчас захопу ён не адкрыў агонь, хаця быў узброены. Увіце сабе, якія наступствы магла б мець навіна пра забітых на расійска-эстонскай мяжы. Ці не адтэрмінаваў ён той самы Армагедон?



# Генрых Вейсенгоф — забыты мастак Беларусі



Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**У жніўні споўнілася 155 гадоў з дня нараджэння беларускага мастака, графіка, скульптара і калекцыянера Генрыха Вейсенгофа. Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 года ён канчаткова з'ехаў з Беларусі на сталае жыхарства ў Польшчу.**

## Разрад маланкі і Кунгур

Па сутнасці, «малой Радзімай» Генрыха быў маёнтак Пакрэўна Ракішкскага павета Ковенскай губерні. Увогуле ж баронскі род Вейсенгофаў, што, як упэўнівае Крэпак, меў шляхецкі герб «Белы Лебедзь», паходзіў з сярэднявечнай Лівоніі. Беларуская лінія яго прасочваецца ад XVII стагоддзя, ад Яна Вейсенгофа і яго сына Міхала, якія атрымалі значныя зямельныя надзелы «за вайсковую службу на карысць Рэчы Паспалітай».

Радавы маёнтак іх, відаць, быў секвестраваны, а бацька Генрыха Уладзіслаў Вейсенгоф «за участие в доставлении снарядов» рашэннем мураўёўскай камісіі ад 13 траўня 1864 года, пазбегнуўшы шыбеніцы і кайданоў, быў высланы на пасяленне ў Кунгур — заўральскі гарадок — «слаўны сваімі цэрквамі, шынкамі ды брудам».

Невялікае купецкае паселішча («сталіца рускага чаю»), што распаўзлося па ўральскіх узгорках яшчэ ў сярэдзіне XVII стагоддзя, і было крэпасцю, якая межавала з башкірамі, уразіла Генрыха двухпавярховымі дамамі са счарнелай лістоўніцы ды мудрагеліста карункавымі аканіцамі

Яшчэ дзівіла, што за горадам поле, палаючае макамі, суседзіла з казачнай лядовай пячорай.

Грамада высяленцаў з Паўночна-Заходняга краю ў Кунгуры існавала ад 1862 года, часоў універсітэцкіх хваляванняў у сталіцы імперыі. Пярэстая па складзе, яна трымалася згуртавана, бо, апрача шляхты, тут былі студэнты ды дробныя служачыя, духоўныя асобы і звычаёвыя месцічы. Паводле спісу, складзенага паліцыяй Кунгура, з 300 асуджаных і іх сямейнікаў з Царства Польскага было толькі 14 асобаў.

«Сапраўдным жа палітычным» вязнем па дакументах, «па Канфірмацыі Віленскай судовай палаты», лічылася толькі адна, астатнія былі пакараныя адміністрацыйна. Пасяленцам, што мусілі штосуботу адзначацца ў паліцэйскім пастарунку ды зносіць абавязковыя вобшукі і ўсемажлівыя канфіскацыі, забаранялася насіць жалобу, мець зброю і фатаграфавацца. Яны прытрымліваліся ўсталяваных патрабаванняў. Але толькі збольшага…

## Пан Люцыян і астатнія

Грамада жыла ў сваіх адасобленых межах. Калі даць веры гісторыку мастацтва Кроненбергу, то першым настаўнікам малявання Генрыха стаў прыяцель бацькі Люцыян, старэйшы брат польскага пісьменніка Юзэфа Крашэўскага (1820–1892), народжаны ў маёнтку Доўгае ля Пружанаў. Да высылкі на Урал разам з жонкай Стэфаніяй, ён паспеў закончыць Свіслацкую гімназію, з якой пайшоў у свет не адзін мастак, і прыродазнаўчы факультэт Дэрпцкага ўніверсітэта.

Як і яго меншы брат Юзэф, ён тады цалкам быў апантаны ідэямі паўстання гістарычнай Літвы. (Як не адзначыць удзячнага слухача, што знайшоў ён у малым Генрыху!) Засвоіць жа лепшыя ўзоры рэалістычнага мастацтва Люцыяну давялося ў галерэях Бельгіі ды Галандыі. Тагачасным жа яго захапленнем у тыя гады была засвоеная ў Нямеччыне фатаграфія. А калі пан Люцыян рашэннем адміністрацыі быў пераведзены ў Цывільск Казанскай губерні (дзе стварыў атэлье і запачаткаваў этнафатаздымкі чувашоў і татараў), то заняткі малюнкам з малым Вейсенгофам пераняў «уроженец Виленской губернии, холостой, лишённый прав состояния, по Высочайшему повелению за неблагонадёжность с 25 января 1863 г. без срока, согласно надзору» былы вучань Акадэміі мастацтваў Іван Місевіч.

Мастаком-пачаткоўцам мог апекавацца да свайго пераводу ў Верхатур'е і «дворянин Казимир Альхимович (30 лет) из Западного края», які «по распоряжению Главного Начальника Западного края за неблагонадёжность в политическом отношении подвергнут полицейскому надзору».



Высяленцы з Беларусі ў Кугнуры

## Варшава — Пецярбург — Мюнхен — Парыж

У Варшаве, куды нарэшце перабраліся ягоныя бацькі, юны Генрых з'явіўся ў 1874 годзе. Па намаўленні даўняга таварыша Люцыяна Крашэўскага (1820–1892) паступіў у Рысавальную школу прафесара Войцэха Герсана, мастацка-навучальную ўстанову ў тагачасным цэнтры калоніі Расійскай імперыі, што была добрым трамплінам у свет прафесійнага мастацтва.

З гэтай установы ў розныя часы стартавалі Ігнацій Урублеўскі, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, Альфрэд Веруш-Кавальскі, Юзаф Панкевіч ды іншыя мастакі-рэалісты з абшараў былога ВКЛ.

Ведаў і дасведу, атрыманага ў школе, бракавала, і Генрых прыслухаўся да парадаў новага знаёмцы і цёзкі, што гасцяваў у той час у Варшаве, — акадэміка Імператарскай Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтва Семірадскага.

І ад 1880 года Генрых Вейсенгоф ужо пачаў штудзіраваць пейзаж у класе Мікалая (Аляксандравіча) Клодта фон Юрсбенбурга (1865–1918), а пазней перайшоў у майстэрню баталіста і анімаліста Багдана Відэвальдэна. Прызнанне Генрыха як мастака прыйшло ў Імператарскай акадэміі мастацтваў (за эскіз карціны «Перавозка параненых» ён атрымаў срэбраны медаль), але баявітыя і разгалінаваныя літаратурныя сюжэты не звабілі яго.

Па заканчэнні ў 1885 годзе Імператарскай акадэміі мастацтваў Генрых даспеў да далейшай навукі. Умовы ў дзяржаве гэтаму не спрыялі. Вырваца з задушліва-закансерваванай імперыі азначала не толькі змяніць цуглі сілком накінутых каштоўнасных арыенціраў, але і атрымаць «новае дыханне».

Вейсенгоф едзе ў Мюнхен… «атмасфера людскасці, талерантнага стаўлення да індывідуалізму, гэта атмасфера свабоды насіць якія заўгодна маскі, гэта атмасфера вясёлай пачуццёвасці, артыстызму, святочнага адчування жыцця, маладосці, народнасці, той народнасці, здаровая моцная глеба якой у сапраўды добразычлівым атачэнні змушае квітнець самыя своеасаблівыя, пяшчотныя і смелыя, а іншым часамі і экзатычныя расліны», — пісаў Томас Ман у працы «Мюнхен як цэнтр культуры».

Разнаіты выбар тамтэйшых студыяў (Ашбе, Халошы і інш.), майстэрняў, класаў і вольных акадэміяў у горадзе творчай свабоды, дзе ўжо прабіваліся парасткі мадэрну, не збілі маладзёна з панталыку. (Як пазней не заблытаўся ён і ў цянётах мастацкага Парыжу).

У Мюнхене Генрых зблізіўся з модным польскім баталістам Юзэфам Брандтам (1841–1915) ды выхадцам з Беласточчыны — Альфрэдам Веруш-Ковальскім

(1849–1915), у іх удасканаліў сваё прафесійнае ўмельства, але... штосьць патаемнае, невыказнае і самому незразумелае кволілася і карцела ў душы, не давала спакою, падштурхоўвала да дзіцячых сцежак, паланіла ўспамінамі... Ён вяртаецца на Радзіму, у матчын маёнтак.

## У матуліным доме

Вяртанне ў матчын маёнтак — Русаковічы Цытвянскай воласці Ігуменскага павета Мінскай губерні — не толькі атуляла і саграгавала яго светам і цяплом роднага котлішча, але і надавала ўсё новага і большага клопату яго няўрымслівай душы. Галоўнай жа была творчасць.

У Русаковічах і наваколлі (фальварках Бахаравічы, Ступня, Слабодка і Сосанка Дудзіцкай воласці, на беразе Сяргееўскага возера) створаны амаль усе яго графічныя і маляўнічыя палотны: «Могілкі ў Русаковічах», «Стары двор Русаковічы», «Дарога на Рудзенск», «Летні дзень у Русаковічах», «Куток у Польным», «Беларускія паляўнічыя», «Краябраз Палесся» і інш.

Важдаючыся з найкаштоўнейшымі рэчамі, з уласнай, непаўторнай калекцыі (а ў Вейсенгофа-збіральніка артэфакты і сапраўды былі ўнікальныя і, разам з тым, досыць звычайныя ў традыцыйнай, сямейна-шляхецкай усёабдымнасці), пільнуючыся ў паляўнічым сакрэце, блукаючы са стрэльбай па балотах (а спадар Генрых быў і зацятым паляўнічым), ці стоячы пры мастакоўскім варштаце або прымаючы разам з дачкой Жазефінай гасцей, Генрых душой быў у заўтрашнім дні свайго краю.

Генрых Вейсенгоф не толькі маркоціўся пра будучыню краю, але і браў чын у тагачасных культурна-мастацкіх ініцыятывах — вечарынах, канцэртах, стварэнні кніг памяці, прысвечаных землякам: Міцкевічу, Манюшку, Сыракомлю і інш.

## Мінск і яго культурнае жыццё

Пасля задушэння паўстання 1863 года мясцовай інтэлігенцы было забаронена займаць адказныя адміністрацыйныя пасады. У лік ключавых ціхіх экспансіяніцкіх сродкаў улучылі маляванне (малюнак і колер здавён былі найістотнейшымі прыладамі кшталтавання адметнасці душы — фарміравання менталітэту), таму на выкладанне ў Беларусь запрашаліся мастакі з цэнтральных расійскіх губерняў. Наш край прыняў больш за 200 прафесійных выкладчыкаў малюнку з расійскіх школаў, у тым ліку каля 50 мастакоў з акадэмічнай адукацыяй (пра гэта сведчыць аналіз картак, складзеных С.Д. Палеесам (БДАМЛіМ ф. 382, воп. 1). Духоўная каланізацыя Беларусі праяўлялася ва ўсім, і перш за ўсё ў мастацтве ды культуры.

Так, у Мінску ў 1899 годзе з клопату афіцэра-артылерыста, мастака-баталіста А. Н. Папова, па ініцыятыве «Грамадства аматараў вытанчаных мастацтваў» была арганізаваная мастацкая выстава, што прапагандавала творчасць перасоўнікаў: І. Рэпіна, Ул. Макоўскага, М. Касаткіна і іншых карыфеяў рускага жывапісу. У 1902 годзе таксама ў Мінску тымі ж сіламі была зладжана экспазіцыя, на якой было паказана 200 твораў сучаснага мастацтва. Увогуле ж, здавалася б, у невялікім правінцыйным Мінску менш чым за першую чвэрць XX стагоддзя адбылося каля сотні выставаў.

Генрых Вейсенгоф удзельнічаў амаль ва ўсіх іх, у 1902 і ў наступных 1903–1904 гадах. Сапраўдным жа бенефісам для яго стала аздабленне сельскагаспадарчай і рамесна-прамысловай выставы ў 1901 годзе ў Гарадскім садзе Мінска (зараз парк ім. Горкага). Апрача некалькіх сваіх палотнаў і эскізаў, якія ён даў у раздзел мастацтва, па замове Карла Чапскага, брата гарадскога галавы, ён выканаў праект дыплома выставы. Прадуманая кампазіцыйная будова ў адзінстве са сродкамі дакладна-рэалістычнага графічнага ўвасаблення прадставілі амаль поўную сацыяль-

> Аўтарская копія 1893 года пейзажа «Снег» была прадстаўлена на выставе Таварыства заахвочвання выяўленчых мастацтваў «Zacheta»

ную паліфанію тагачаснага грамадства. Менавіта працаўнік ля кавадла на тле вясковага краявіду, паляўнічы, касец і жняя, а яшчэ — коні, куры, каровы ды азёры і нетры лясныя з іхнімі жыхарамі.

Найбольш значнай па задуме стала выстава 1911 года, што адчынілася 11 сакавіка ў памяшканні польскага грамадскага клуба «Ognisko» на Саборнай плошчы, 4, у доме Ляхоўскага (зараз там месціцца кансерваторыя). Ініцыяваная яна была купкай мінскіх творцаў: скульптарам (сербам па нацыянальнасці) Яраславам Тышынскім, творцам з Полаччыны Вацлавам А. Бубноўскім (1865–1945), архітэктарам, скульптарам і літаратарам Атонам Краснапольскім (1877–1971). Ачоліў ініцыятыву мастак з Вішнева Фердынанд Рушчыц.

Удзел у гэтай выставе ўзялі 47 творцаў, якія паказалі 166 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, арт-аб'ектаў і фотаграфікі. Апрача аўтараў з Беларусі (Я. Кругер, Л. Альпяровіч, Б. Адамовіч, Я. Булгак, З. Ленскі) удзельнічалі майстры з польскіх ды літоўскіх земляў (Я. Станіслаўскі, В. Прушкоўскі, С. Віткевіч, М. Чурлёніс, П. Калпокас, А. Жмуйдзінавічус, Ст. Богуш-Сестранцэвіч), украінскія мастакі (І. Ярэменка, Ю. Івашкевіча) і інш.

Генрых Вейсенгоф прадставіў тут сваю «знакавую» карціну «Прадчуванне» і некалькі бліскучых эцюдаў (Л. Дробаў). Выстава мела вялікі рэзананс у грамадстве і значную прэсу. На жаль, спробы пераўзысці гэтую падзею ці хоць бы замацаваць поспех (у красавіку 1912-га і мастацка-этнаграфічнай выставай 1913 года) поспеху не мелі.

## 1914 год

З пачаткам Першай сусветнай вайны Вейсенгоф наведваў Варшаву. Аглядаючы тамтэйшае мастацкае жыццё і ўяўна адчуваючы павевы рускага авангарду і нямецкага сецэсіёну, ён як сябра таварыства мастакоў «Sztuka» (ад 1909 года), усё больш грунтоўна абапіраецца (як тэарэтычна, так і практычна) не на «фармізм», а на традыцыйную фарматворчасць радзімы — рэалізм.

Ад таго часу (1916–1917) пачала складацца культурна-грамадская групоўка «Pro-Arte», якая гучна заявіла пра сябе ў красавіку 1921 года. Абавязкі старшыні групы Генрых Вейсенгоф выконваў да сваёй смерці ў 1922 годзе. «Выбар Вейсенгофа красамоўна адлюстраваў мастацкае крэда групы — развіццё рэалістычнай традыцыі, згодна з духам народа», — піша Наталля Маліноўская.

## Вяртанне мастака і яго спадчыны

Мастацкая крытыка ва ўсе часы высока ацэньвала дасягненні Генрыха Вейсенгофа, падкрэслівала яго майстэрства ў адчуванні прыроды, а таксама лірызм і настраёвасць яго карцін. Творы Вейсенгофа экспанаваліся на Усебеларускай выставе 1925 года, і, нягледзячы на пасмяротную крытыку мастака Арона Касцялянскага («Вейсенгоф не ўяўляе ніякай каштоўнасці: у сваіх работах ён адлюстроўвае ідэалогію галоўным чынам чыноўнікаў і шляхты...»), былі паказаныя на выставе выяўленчага мастацтва БССР у Маскве ў 1940 годзе.

На эпахальнай выставе «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» творы Вейсенгофа не экспанаваліся. Прычына банальная — іх папросту няма. У Вільні, Варшаве, Кракаве ёсць, а ў Беларусі няма.

Хто ведае, куды дзеліся... расказваюць, нібыта ў маёнтку мастака, з якога зрабілі школу, адзін з твораў доўга валяўся ў кладоўцы, але потым быў разам з хламам і смеццем спалены падчас правядзення «ленінскага суботніка». Для вяртання твораў мастака ў Беларусь застаецца спадзеў не на дзяржаву, а на прыватных дабрадзеяў, якія збіраюць творы адзінкава, а не скупляюць агулам.

Патрэбна толькі цвярозае ўсведамленне Беларусі ды шчырая зацікаўленасць і неабыякавасць. Да прыкладу, адна з лепшых «знакавых» (для беларусаў) казачна прыгожая работа Генрыха Вейсенгофа «Вясна». З лаканічным, нешматслоўным і рэалістычна-характарыстычным сюжэтам, далёкая ад натуралістычнага капіявання? работа стварае ёмісты вобраз працоўна-вясковага календара.

Аўтарская копія 1893 года славутага пейзажа «Снег» (1888 г.), філасафічная па ўнутраным сюжэце праца, была адзначана прэміяй на выставе ў Пецярбургу, а пазней прадстаўлена на выставе Таварыства заахвочвання выяўленчых мастацтваў «Zacheta». У 1900 годзе на выставе ў Парыжы палатно «Снег» было ўганаравана срэбраным медалём.

5 снежня 2004 года адзін з аўкцыённых дамоў Варшавы атрымаў за гэтую карціну 53 124 USD пры стартавым кошце 20 170 USD.



Генрых Вейсенгоф. «Вясна». 1911



Генрых Вейсенгоф. «Беларускія могілкі. Русаковічы». 1889



Генрых Вейсенгоф. «Прадчуванне». 1893



Генрых Вейсенгоф. «Снег». 1894

# Гульня «1514»

Марат ГАРАВЫ

**8 верасня, у Дзень беларускай вайсковай славы і 500-годдзя славутай перамогі пад Оршай, у кнігарні «ЛогвінаЎ» адбылася прэзентацыя эпічнай беларускамоўнай настольнай гульні «1514».**

У камплект гульні, прызначанай для тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, і распрацаванай спецыялістамі сталічнай арт-студыі «PRAS» Аляксеем Кульбіцкім і Міколам Тамашэвічам, уваходзіць гульнявое поле памерам А2 (420X594 мм), шэсць фігурак пяхоты, артылерыі і кавалерыі (двух колераў — белага і чырвонага), 60 дапаможных картак з вайсковымі задачамі, кубік для вызначэння руху і правілы.

Дызайн кожнага элементу гульні адпавядае гістарычным дакументам: на гульнявым полі, намаляваным згодна спадарожнікаваму здымку Крапівенскага поля, адлюстраваны старажытны Аршанскі замак, селішчы, млыны і вайсковыя намётавыя лагеры пачатку XVI стагоддзя, а на вокладцы і картках — чарцяжы вайсковага ўзбраення позняга сярэднявечча.

Гульцы дзеляцца па камандах у цотнай колькасці (да 6 чалавек) і вызначаюць, хто будзе літвінам, а хто маскоўцам. Затым кожны гулец каманды атрымлівае па адной з трох фігурак пяхоты, артылерыі і кавалерыі (свайго колеру), і кідае па чарзе кубік з лічбамі, што вызначаюць працягласць ходу. Калі фігурка спынілася на чырвоным крузе, гулец атрымлівае чырвоную картку (якая спрыяе), калі на чорным — чорную (што замінае), а далей выконвае адпаведную задачу, пазначаную ў картцы.

У выпадку, калі фігурка спынілася на крузе, дзе ўжо стаіць фігурка суперніка, адбываецца «бой», і фігурка суперніка, як абаронца, адыходзіць на адзін крок назад — бліжэй да свайго лагеру.

Задачы, якія прапануецца выканаць, маюць гістарычны падтэкст і змяшчаюць у сабе інфармацыю, што грунтуецца на забабонах, рэальных падзеях і асаблівасцях вайсковай справы сярэднявечча Усходняй Еўропы, але без указання асобаў і месцаў з мэтай зрабіць гульню больш універсальнай.

Падчас прэзентацыі жадаючыя змаглі паспрабаваць свае сілы ў новай гульні і паглядзець двубой рыцараў з рыштункам і зброяй позняга сярэднявечча. Дарэчы, рыцараў прадставілі ветэранамі маскоўска-літоўскай вайны 1512–1522 гадоў, якія дажылі да сёння і прыйшлі не толькі святкаваць юбілей бітвы, але і бараніць удзельнікаў свята «ад усялякіх злыдняў».

Гульню можна набыць у кнігарні «ЛігвінаЎ» і замовіць поштаю ў любую кропку Беларусі на сайце symbal.by.

Гэтая ўжо трэцяя па ліку беларускамоўная настольная гульня, створаная ў краіне, пабачыла свет пры падтрымцы грамадскага агенцтва «Арт-сядзіба».







Леанід Лыч на выставе твораў з нагоды 85-гадовага юбілею. Фота Элы Дзвінскай

# Новыя кнігі Леаніда Лыча

Эла ДЗВІНСКАЯ

**Актуальныя праблемы беларусізацыі ўздымае ў новых творах вядомы гісторык-адраджэнец Леанід Міхайлавіч Лыч.**

### «Першаму з'езду беларусаў свету — 20 гадоў»

Кніга разлічана на тых, каго цікавяць праблемы сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі і дыяспары. Нататкі прысвечаны першаму старшыні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Яўгену Лецку. На пачатку 1990-х Лецка наведаў шэраг краін з найбольшай па колькасці беларускай дыяспарай, спрыяў аб'яднанню вакол сябе аднадумцаў, наладжванню стасункаў прадстаўнікоў дыяспары з метраполіяй. ЗБС «Бацькаўшчына» на вачах набірала сілу, узмацняла свой аўтарытэт у грамадстве. Яе фундатарамі-заснавальнікамі сталі 15 установаў і аб'яднанняў краіны. Аўтар узгадвае ўстаноўчую канферэнцыю ЗБС «Бацькаўшчына» 10–11 верасня 1990 года.

У кнізе адзначаны працэс вяртання ў нацыянальную спадчыну твораў Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Рыгора Крушыны, Вінцука Адважнага, Кастуся Акулы, Уладзіміра Дудзіцкага, навуковых прац Барыса Кіта, духоўнай і асветніцкай дзейнасці айца Аляксандра Надсана. «Падрыхтоўка і правядзенне першага з'езду беларусаў свету адбываліся ў самы пік тагачаснага нацыянальна-культурнага ўздыму. Гэту эпахальную сустрэчу нікому не атрымаецца выкрасліць з аналаў гісторыі», — упэўнены аўтар.

Ён прыходзіць да высновы: «Каб сёння зменшыць этнічныя страты нашага народа, неабходна сістэмная праца дзяржавы, прагрэсіўных колаў грамадства Рэспублікі Беларусь і яе дыяспары па падтрымцы цеснай дзелавой садружнасці, распрацоўцы канцэпцыі па захаванні этнакультурнай самабытнасці беларусаў як у сябе на радзіме, так і за мяжой».

### «Моладзі — праўдзівую гісторыю»

У кнізе аналізуецца выдадзеная для школьнікаў, навучэнцаў сярэдніх спецыяльных установаў, нацыянальная літаратура па гісторыі Беларусі, выказваюцца меркаванні, што неабходна зрабіць, каб веды пра мінулае нашага народа спрыялі ўзгадаванню яго маладых пакаленняў у духу нацыянальнага патрыятызму, здольных супрацьстаяць любым формам культурна-моўнай асіміляцыі. Паляпшэнне якасці школьнай літаратуры па гісторыі Беларусі павінна ісці па лініі максімальнага ўзбагачэння іх матэрыяламі па культуры.

«Забяспечыць школу высакаякаснай літаратурай па айчыннай гісторыі можна толькі адмяніўшы ўсякую ідэалагічную цэнзуру, — лічыць Леанід Лыч. — Адзіным і галоўным цэнзарам іх павінен быць аўтар, які не будзе дзеля нейкай часовай кан'юнктуры ганьбіць сваё імя фальсіфікацыяй гісторыі. Рэцэнзаванне павінна мець не ідэалагічны (палітычны), а выключна метадалагічна-асветніцкі характар».

### «Беларускае нацыянальнае пытанне»

«Нацыянальная адукацыя — гэта эліксір жыцця кожнага народа, — сцвярджае Леанід Лыч у гэтай кнізе. — Нам яе стагоддзямі не давалі, прычым улады суседніх славянскіх краін. Таму і маем такую бедную гістарычную памяць, цураемся роднай культуры і мовы, абыякавыя да таго, ці захаваемся як самабытны этнас, ці ператворымся ў бесструктурную, безаблічную масу, будзем утрымліваць духоўных каштоўнасцяў суседніх народаў, не баючыся бясследна растаяць, знікнуць у іх асяроддзі. Калі дзяржава не пойдзе на стварэнне нацыянальнай адукацыі, адпадуць усякія падставы гаварыць пра яе (дзяржавы) намер выратаваць беларускі народ ад рускай культурна-моўнай асіміляцыі».

Акрамя таго ў гэтым годзе выйшла кніга Леаніда Лыча «Міжваенная беларусізацыя і яе ўрокі».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1221

Падпісана да друку 12.09.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.